*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 47 (4402)**

18 чэрвеня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Калі хочаш лепшай долі – дапамажы «Народнай Волі»!

Шаноўныя сябры!

Нагадваем: усяго некалькі дзён засталося да заканчэння падпісной кампаніі. Каб з 1 ліпеня Вы і надалей мелі магчымасць чытаць «Народную Волю», абавязкова зазірніце да 26 чэрвеня ў любое паштовае аддзяленне і афарміце падпіску на другое паўгоддзе.

Можна гэта зрабіць і не выходзячы з дома. Заходзьце, калі ласка, на сайт Belpress.by і праводзьце аплату праз сістэму «Расчет» (АРІП). Пры гэтым, заўважым, тэрмін афармлення падпіскі праз інтэрнэт на ліпень–снежань 2019 года – да 20 чэрвеня.

Не забудзьце, гараджане, зрабіць падарунак для бацькоў, сваякоў, сяброў, якія жывуць у аддаленых вёсках і якім нязручна дабірацца ў паштовыя аддзяленні. Знайдзіце магчымасць аформіць ім падпіску па месцы свайго жыхарства. Яны будуць атрымліваць «Народную Волю» і, чытаючы кожны нумар, выказваць Вам удзячнасць.

Кошт месячнага камплекту нумароў **менш за 8 рублёў**. Падпісныя індэксы: **63222** – для індывідуальных падпісчыкаў, **632222** – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Сіла беларусаў – у згуртаванасці. Таму будзем разам і надалей!

***Калі хочаш лепшай долі – дапамажы «Народнай Волі». У свеце ПРАЎДЫ жыць імкніся, на газету падпішыся!***

**Рэдакцыя.**

БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА

## Президент безграничной власти…

*В Беларуси впервые с официальным визитом находится президент Египта Абдель Фаттах ас-Сиси.*



Сегодня он встретится с Александром Лукашенко. Официально сообщается, что лидеры двух стран обсудят вопросы расширения торгово-экономического взаимодействия, а также политических отношений, в том числе на площадках международных организаций. Президент Египта встретится с руководителями ряда крупных белорусских компаний и предприятий. По итогам визита ожидается подписание пакета международных документов.

Что сегодня представляют собой Египет и его 64-летний лидер, который впервые был избран президентом страны в 2014 году, а в 2018-м переизбран на этот пост с ошеломительным результатом: по данным Центризбиркома Египта, за Абдель Фаттах ас-Сиси тогда проголосовало 97,08% избирателей.

Политологи говорят, что нынешний глава Египта – фактически реставрирует режим Хосни Мубарака, лишившегося должности президента страны в ходе «арабской весны» в 2011 года после 30-летнего правления. Дело в том, что в апреле этого года в Египте прошел референдум, который позволил ас-Сиси оставаться у власти до 2030 года: поправки, которые внесены в Конституцию, обнуляют количество сроков полномочий ас-Сиси и увеличивают срок полномочий президента с 4 до 6 лет. Также на референдуме изменениям подверглась статья Основного закона страны, которая касается Вооруженных сил Египта, и теперь оппоненты ас-Сиси опасаются, что эта статья будет использована для усиления роли армии как репрессивного института. Причем опасения эти небезосновательны: при ас-Сиси власть военных и так существенно возросла, например, военные влияют даже на экономику, через нынешних и бывших офицеров они входят в советы директоров и владеют акциями в частных предприятиях.

Оппозиция упрекает ас-Сиси в сворачивании демократических свобод в стране, все чаще его сравнивают с Хосни Мубараком и называют президентом безграничной власти. Оппонены ас-Сиси уверены, что он на фоне событий в Алжире и Судане умело играет на страхах людей: мол, смотрите, как там всё плохо, хотите так же? Но стоит отметить, что по сравнению с положением в Судане и Алжире, где одной из главных причин недовольства стала экономика, в Египте дела обстоят гораздо лучше. Даже Международный валютный фонд отмечает, что экономика Египта продолжает расти, безработица находится на самом низком уровне с 2011 года, поддерживается достаточно высокий уровень золотовалютных резервов. Но при этом уровень жизни большинства египтян снижается, а обстановка в регионе остается нестабильной. В прошлом месяце, например, в Каире произошел взрыв рядом с туристическим автобусом...

Что касается двусторонних отношений между Беларусью и Египтом, то после визита в Каир в 2017 году Александра Лукашенко тут отмечается явный прогресс. В 2016 году товарооборот между нашими странами составлял 58 миллионов долларов, а уже в 2018-м вырос до 108 миллионов. Причем экспорт белорусских товаров почти удвоился – с 43,3 млн долларов до 83 миллионов. В планах на этот год выйти на цифру товарооборота в 130 миллионов долларов.

Беларусь поставляет в Египет грузовую автотехнику, тракторы, оптику, металлопродукцию, рентгеновское оборудование, калийные удобрения, сливки и сухое молоко, продукцию нефтехимии и деревообработки, а импортирует из Египта овощи и фрукты, лекарственные средства, одежду, текстиль. К слову, в феврале прошлого года в Египте было создано совместное предприятие по производству автотехники МАЗ. Там сейчас выпускаются также тракторы «Беларус», зерноуборочные комбайны «Гомсельмаш» и другая сельхозтехника.

**Иван ШИРОКИЙ.**

SOS!

## У Лідзе людзі запрашаюць раённых чыноўнікаў выкупацца ў забруджанай Дзітве

У нядзелю лідскія актывісты прынеслі да райвыканкама слоікі з бруднай вадой і паставілі іх перад уваходам, з тым каб улады правялі аналізы гэтай вады. Паводле інфармацыі сведак, удзельнікі акцыі, у тым ліку аператар, які іх здымаў, аштрафаваны.

У панядзелак яшчэ двое актывістаў днём выйшлі з плакатам "Мёртвая Дзітва" на сходы Лідскага райвыканкама і прастаялі там больш за хвіліну. Telegram-канал «NEXTA Lite» апублікаваў іх здымак. Аб іх затрыманні нічога не паведамляецца.

У мінулым нумары "Народная Воля" пісала пра тое, што на рацэ Дзітве ў Лідскім раёне Гродзенскай вобласці адбыўся замор рыбы і вада ў рацэ мае непрыемны пах. Жахары Ліды высветлілі, што забруджаная вада трапляе ў Дзітву і далёй у Нёман з лідскіх ачышчальных збудаванняў.

"Народная Воля" звязвалася з Лідскай інспекцыяй аховы жывёльнага і расліннага, і там ведаюць пра замор рыбы ў Дзітве, а таксама непрыемны пах ад вады. Начальнік інспекцыі **Андрэй Грос** сказаў нашай газеце, што ў мінулы чацвер з самай раніцы па дадзеным факце праводзілася праверка, узяты пробы вады. У панядзелак вынікаў аналізаў яшчэ не было.

Тым часам у інтэрнэце ўжо з'явілася відэа, на якім лідскія актывісты паказваюць, адкуль у Дзітву цячэ забруджаная вада, і запрашаюць раённых чыноўнікаў у ёй выкупацца.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Больш за 10 тысяч рублёў – кошт святкавання Дня Волі–2019 у мінскім Кіеўскім скверы

*Арганізатары свята дагэтуль аспрэчваюць сумы, якія павінны заплаціць. ГУУС Мінгарвыканкама выстаўляе свае прэтэнзіі. У выніку ў два сталічныя суды пададзены іскавыя заявы.*

Нагадаем, што сёлетняе святкаванне 101-х угодкаў БНР праходзіла па новых правілах – у адпаведнасці са зменамі ў Закон «Аб масавых мерапрыемствах» арганізатары акцый мусілі заплаціць міліцыі за іх паслугі па ахове грамадскага парадку падчас масавых акцый. Праваахоўнікі першапачаткова выставілі арганізатарам святкавання Дня Волі–2019 у сталічным Кіеўскім скверы рахунак у 3825 рублёў (150 базавых велічынь), а потым павялічылі суму да 6375 рублёў (250 б.в.), спаслаўшыся на тое, што ўдзельнікаў акцыі было больш за тысячу. Арганізатары свята ўвогуле адмовіліся плаціць, бо палічылі, што паслугі міліцыі былі няякасныя, і першапачаткова спрабавалі ўладзіць спрэчку шляхам перамоў: даслалі ў ГУУС Мінска прэтэнзію. Аднак яшчэ не быў атрыманы адказ з міліцыі, а суд Цэнтральнага раёна сталіцы ўжо па іску ГУУС прыцягнуў да адміністрацыйнай адказнасці арганізатараў Дня Волі за парушэнне парадку арганізацыі масавых мерапрыемстваў, а фактычна за неаплату на працягу 10 дзён паслуг міліцыі. Сустаршыню аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» **Вольгу Кавалькову**, выконваючага абавязкі старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Мікалая Казлова**, кіраўніка Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) **Ігара Барысава** і старшыню руху «За Свабоду» **Юрася Губарэвіча** пакаралі штрафам у памеры 30 базавых велічынь (765 рублёў) з кожнага! Гэтае рашэнне суда палітыкі абскардзілі, але 11 чэрвеня Мінскі гарадскі суд пакінуў яго ў сіле, і яно ўступіла ў законную сілу.

Праўда, арганізатары Дня Волі на гэтым не паставілі кропку і працягваюць змагацца. Нядаўна Вольга Кавалькова, Мікалай Казлоў, Ігар Барысаў і Юрась Губарэвіч падалі іск у суд Маскоўскага раёна сталіцы з патрабаваннем скасаваць дамову з ГУУС Мінгарвыканкама на аказанне паслуг па ахове правапарадку падчас мітынгу 24 сакавіка і тым самым не плаціць міліцыі невядома за што завоблачныя сумы. Як абгрунтаванне іску прыводзіцца затрыманне падчас мерапрыемства **Зміцера Дашкевіча** і **Віталя Рымашэўскага** людзьмі ў цывільным на ахоўнай пляцоўцы. Акрамя таго, арганізатары згадваюць забарону з боку супрацоўнікаў міліцыі для ўдзельнікаў мітынгу пакідаць мерапрыемства з бел-чырвона-белымі сцягамі пад пагрозай затрымання.

Аднак літаральна ў той жа час ГУУС Мінгарвыканкама звярнулася ў суд Цэнтральнага раёна Мінска са сваім іскам аб спагнанні ўжо з палітыкаў сумы запазычанасці – 6375 рублёў, а таксама пені – 777 рублёў 75 капеек і працэнтаў за карыстанне чужымі грашовымі сродкамі – гэта яшчэ 106 рублёў 54 капейкі. Агулам ГУУС патрабуе спагнаць з арганізатараў свята 7259 рублёў 29 капеек.

– *Дата судовага разбіральніцтва па нашым іску яшчэ не прызначана*, – каменціруе сітуацыю Юрась Губарэвіч. – *А па іску ГУУС Мінгарвыканкама яна ўжо вядомая – 24 чэрвеня. Таму сітуацыя цікавая. Магчыма, нашы два іскі аб'яднаюць. Верагодным выглядае і іншы сцэнарый: суд задаволіць іск міліцыі, і таму нам адмовяць – сэнсу ў другім судовым разбіральніцтве як бы і не будзе. Але ж мы заплацілі судовую пошліну. Пaглядзім, як яно ўсё будзе насамрэч…*

*Наша сітуацыя – гэта сведчанне таго, як дзяржава абдзірае грамадзян, якія плацяць падаткі ў бюджэт. Мы ствараем прэцэдэнт, імкнучыся даказаць неканстытуцыйнасць гэтага дадатковага пабору з арганізатараў масавых акцый. Такога няма нідзе ў свеце! У выпадку адмовы нам у судзе будзем звяртацца са скаргай у Камітэт ААН па правах чалавека.*

Дарэчы, калі дадаць да выстаўленых міліцыяй 7259 рублёў яшчэ і суму штрафаў, якую спагналі з палітыкаў за неаплату паслуг міліцыі – а агулам гэта 3060 рублёў, то атрымліваецца, што сёлетняе святкаванне Дня Волі ў Мінску абыдзецца дэмакратычнай супольнасці ў добрую капейчыну – 10.319 рублёў, ці амаль 5 тысяч долараў па афіцыйным курсе.

Вось такі ён, кошт дэмакратыі па-беларуску, у канкрэтнай сітуацыі…

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**




ВІНШУЕМ!

## Яго кахалі ўсе Паўлінкі Купалаўскага тэатра



Любімы і сапраўды народны артыст Беларусі **Арнольд Памазан**, прадстаўнік старога пакалення купалаўцаў, гэтымі днямі адзначыў сваё 80-годдзе. Ён заўсёды застанецца ў памяці гледачоў многімі сваімі ролямі – Буслаем у спектаклі «Парог», Навумам Прыгаворкам ў «Ідыліі», Дзедам Данілам у «Сымоне-музыку». Але яго лепшы вобраз – бліскучы пан Быкоўскі з «Паўлінкі», візітнай карткі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Гэта знакавая роля ў біяграфіі Памазана, ён сыграў яе больш за тысячу разоў, за гэты час змянілася аж восем Паўлінак. І калі яму ў 2007 годзе ўручалі «Хрустальную Паўлінку», вышэйшую ўзнагароду Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі, Памазан заўважыў з гумарам: «Сыграў я на сцэне Быкоўскага ажно з васьмю Паўлінкамі, а вось толькі дзявятая, хрустальная, панна мяне пакахала».

Насамрэч яго кахалі ўсе Паўлінкі Купалаўскага тэатра – за далікатнасць, мудрыя інтанацыі, непадробнае аксамітнае гучанне мовы… «Ён насамрэч тэатральны чараўнік з самай правільнай, дзіцячай цікаўнасцю да мастацтва», – кажа народная артыстка Беларусі Зоя Белахвосцік, ягоная Паўлінка на сцэне на працягу аж васямнаццаці гадоў.

У адным інтэрв'ю Арнольд Кандратавіч нават прызнаваўся: «У мяне заўсёды было адчуванне, што Янка Купала, калі пісаў «Паўлінку», палову сэрца аддаў Паўлінцы, а палову – Быкоўскаму. У Купалу ж таксама франтаўство было, менавіта не фанабэрыя, а франтаўство. У гэтай ролі знешні малюнак вельмі багаты, многа пластыкі, танцаў. А я ж з маладосці сам быў і пявун, і танцор, і франт…»

Хай захаваецца ў Вас як мага даўжэй Ваша заўсёднае радаснае ўспрыманне жыцця, паважаны Арнольд Кандратавіч!

**Вікторыя ДРОЗД.**

ПРАБЛЕМА!

# «А каму мы тут патрэбны?..»

*Жыхары вёскі Дубна Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці больш за два гады атрымліваюць з кранаў іржавую ваду, якую немагчыма ўжываць для піцця і прыгатавання ежы. Плацяць за яе згодна з тарыфамі, якія дзейнічаюць у краіне, а выкарыстоўваюць толькі для паліву агародаў. Калі сітуацыя зменіцца – не вядома. Начальству, якое корміць людзей абяцанкамі, ніхто ўжо не верыць.*

### Што здарылася?

Ніхто з жыхароў Дубна не можа патлумачыць, чаму раптам з крана пачала ліцца вада ржавага колеру.

Адны кажуць: зламаўся насос, яго рамантавалі, потым замянілі, але, маўляў, вада сапсавалася.

Другія мне распавялі іншую гісторыю. Калі прабілі новую свідравіну, то вада пайшла ржавая – маўляў, вялікі ўзровень утрымання жалеза.

Дзіўна, што людзі столькі часу не ведаюць, чаму вада стала непрыдатнай для піцця. Адна з жыхарак Дубна проста сказала: нам ніхто не тлумачыць.

*«Водаправод быў зроблены яшчэ за савецкім часам, і яго абслугоўваў калгас, дагледзалі нашы тутэйшыя людзі,* – распавядае спадарыня Вера. – *А потым, як перадалі на баланс Мастоўскай жыллёва-камунальнай гаспадаркі, то ўсё змянілася...»*


Жыхар Дубна паказвае, якая вада цячэ ў іх вёсцы з кранаў.


Такім становіцца посуд ад вады з крана.

### Цяпер толькі паліваем агароды

Спадар Мікалай – мужчына пенсіённага веку – вядзе мяне па вёсцы і паказвае, што ўсе калонкі заварылі. Ваду падвялі кожнаму ў хату і паставілі лічыльнікі. Але ўжо больш за два гады гэтай вадой людзі толькі паліваюць агароды. Да ўсяго, кажа Мікалай, яна смярдзіць.

Мяне завялі на адзін падворак і паказалі, што робіцца з посудам, у якім знаходзілася вада з крана. Эмаліраваная міска ўся ржавага колеру, пластыкавая каністра не адмываецца ад іржы.

*«Ну то а як людзям піць такую ваду? Добра, што ў вёсцы яшчэ засталіся дзядоўскія студні*, – кажа спадар Мікалай. – *Мы вось на нашай вуліцы збіралі па 30 рублёў з хаты, наймалі людзей і чысцілі сабе студню. Цяпер бяром ваду для сябе толькі адсюль».*

Спадарыня Кацярына заўважае, што з гэтым таксама ёсць нязручнасці: вядро вады некаторым даводзіцца насіць за 100 метраў і болей. А Яўген Цвяткоў, у якога студня на падворку, дадае, што і там вада непрыдатная для піцця, хаця ідзе з глыбіні аж на 22 кольцы!

*«Мы здавалі на праверку ў санстанцыю сваю ваду, і нам сказалі, што ў ёй зашмат нітратаў»,* – канстатуе спадар Цвяткоў. – *Але людзям пра гэта ніхто не кажа, у раённай газеце нічога не публікавалі, а таму ўсе ёй і карыстаюцца».*

Насупраць Яўгена жыве бабуля, якой за 80, з сынам-інвалідам, і яны, паводле яго слоў, папросту не могуць нікуды схадзіць за вадой, а п'юць тую, што цячэ з крана.

Спадарыня Алена, у якой двое дзетак, скардзіцца: напачатку карысталіся гэтай вадой для мыцця бялізны, але хутка пральная машына выйшла са строю. Зараз, у спёку, не могуць набраць для дзяцей басейн – вада рудага колеру.

### «Начальства злуецца…»

Жыхароў Дубна вельмі абурае тое, што за ржавую ваду даводзіцца плаціць па тарыфе пітной. Гэта звычайнае махлярства, гарачацца яны, а ўлады заплюшчваюць на гэта вочы.

*«Ну вось мы, калі выбіраем норму вады ў сваім доме, то за месяц плацім 10 рублёў,* – кажа спадарыня Таццяна. – *А калі больш нормы, то і 20 рублёў плацім. А вада – толькі на паліў агарода. Нам крыўдна, што ўлады не дадумаюцца зрабіць вяскоўцам ніжэйшы тарыф, яны ж ведаюць, што ў сельскай мясцовасці расход вады большы, а заробкі значна меншыя».*

Вяскоўцы заўважаюць, што за свае заробкі і пенсіі яны не могуць набываць ваду ў крамах.

Спадарыня Раіса расказвае, што напачатку спрабавалі змагацца з іржавай вадой з дапамогай фільтраў. Але праз пяць дзён яны псуюцца, а каштуюць па 50 рублёў.

Жыхары Дубна неаднойчы звярталіся ў розныя інстанцыі наконт вады: пісалі ў райвыканкам, аблвыканкам, у ЖКГ, у ЖРЭУ, тэлефанавалі на тэлебачанне, але ўсё безвынікова.

*«А каму мы тут патрэбны...»* – уздыхае адна з жанчын.

А вось спадарыня Валянціна згадвае, як каля года таму хадзіла ў сельсавет на сустрэчу з раённым кіраўніцтвам. Тады на стол перад чыноўнікамі паставілі поўныя бутэлькі вады і запыталіся: як яе піць?

*«Ніколі не забуду, як мастоўскі начальнік раззлаваўся, пачырванеў, надзьмуўся,* – згадвае спадарыня. – *Маўляў, мы тут стараемся, запланавалі станцыю абезжалезвання, а вы ўсё з прэтэнзіямі!..»*

Тады спадарыня Валянціна зразумела, што ім ніхто з гэтай вадой не дапаможа, і перастала хадзіць на сходы і падпісвацца пад скаргамі: *«Гэта не для маіх нерваў. Усё роўна яны пра нас не думалі, не думаюць і думаць ніколі не будуць...».*

### «Нармальная вада будзе ў трэцім квартале...»

Кіраўнік Мастоўскай ЖКГ **Аляксандр Касарэўскі** быў здзіўлены цікавасцю «Народнай Волі» да праблемы пітной вады ў Дубне. Праўда, адразу адказаў, што ўжо ў трэцім квартале гэтага года (ліпень, жнівень, верасень) па трубах жыхароў вёскі пабяжыць нармальная вада.

«Народная Воля» пацікавілася: чаму за ржавую ваду на працягу больш як двух гадоў жыхары Дубна плацяць як за ваду для піцця?

*«А хто сказаў, што гэта вада непрыдатная для эксплуатацыі?* – дакладна цытую адказ кіраўніка ЖКГ. – *А што, ёсць пратаколы выпрабавання вады? Перавышэнне нормы ўтрымання жалеза ў вадзе ёсць ва ўсёй краіне. Згодна з абласной праграмай, праект станцыі абезжалезвання ў гэтым раёне ўжо зроблены, прайшоў экспертызу, праходзіць тэндар. У хуткім часе прыступяць да працы па ўсталяванні станцыі».*

Кіраўнік ЖКГ лічыць, што вада з утрыманнем вялікай колькасці жалеза не з'яўляецца дрэннай. Маўляў, гэта толькі адзіны паказчык, а ўсе астатнія ў той вадзе ў норме.

Паводле слоў спадара Касарэўскага, да 2005 года ў яго ным доме цякла такая самая вада, і ён, маўляў, спажываў яе...

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ЭКСПЕРТЫЗА

# Ці працягнуць зніжацца кошты на бензін?

*Старшы аналітык кампаніі «Альпары» **Вадзім Іосуб** распавёў «Народнай Волі» пра тое, чаму знізілася цана на паліва і ці захаваецца такая тэндэнцыя надалей.*

Аўтааматары ўжо прызвычаіліся, што амаль кожныя выхадныя паліва даражэе на 1 капейку, але ў мінулую нядзелю традыцыя парушылася – бензін і салярка на тую ж капейку патаннелі.

З 16 чэрвеня цана бензіну АІ-92-К5-Еўра складае 1 рубель 57 капеек, АІ-95-К5-Еўра – 1 рубель 67 капеек, АІ-98-К5-Еўра – 1 рубель 79 капеек, дызельнага паліва – 1 рубель 67 капеек.

«Белнафтахім» патлумачыў, чаму адбылося такое зніжэнне: *«у адпаведнасці з прынятай канцэрнам палітыкай паэтапнага змянення коштаў на аўтамабільнае паліва і ў сувязі са зніжэннем коштаў на нафту, якая пастаўляецца на беларускія нафтаперапрацоўчыя заводы».*

– Думаю, тэндэнцыя зніжэння кошту на паліва не працягнецца, гэта больш падобна на разавую акцыю, – кажа эксперт. – І мэта гэтай акцыі, як мне падаецца, надаць бачнасць рыначнага коштаўтварэння на паліва.

На самай справе зараз на ўнутраным рынку нашы нафтаперапрацоўчыя заводы прадаюць паліва сабе ў страту, і, каб выйсці з гэтай сітуацыі, кошты патрэбна значна падымаць. Яны будуць рабіць гэта ў звычайным рэжыме, даражэць паліва будзе на 1 капейку, але пры гэтым канцэрн, відаць, вырашыў стварыць ілюзію, што ён не толькі падымае кошты, але гатовы зрэдку іх зніжаць. Хаця эканамічнага сэнсу ў зніжэнні няма абсалютна ніякага. Гэта звычайны піяр-ход.

**– Адным словам, можа быць крок наперад, а затым пяць крокаў назад…**

– Так, хаця не выключана, што пасля некалькіх крокаў росту коштаў зноў могуць знізіць на 1 капейку.

Але паталок цаны на паліва нават нельга назваць, хаця можна ўспомніць, што ў 2013 годзе арыенцірам кошту 1 літра бензіну АІ-92 быў эквівалент 1 долара. Зараз у Беларусі долар каштуе крыху больш за 2 рублі, а літр бензіну АІ-92 – 1 рубель 57 капеек. Так што, як бачым, магчымасці для росту яшчэ дастатковыя.

У мінулым годзе беларускія нафтаперапрацоўчыя прадпрыемствы сталі стратнымі, і ў гэтым годзе тэндэнцыя працягнулася. Калі яны выйдуць у плюс, тады можна казаць пра паталок коштаў на паліва. І гэта пры тым, што пастаянна змяняюцца сусветныя цэны на нафту. Таму паліва пакуль працягне даражэць…

**Алесь СІВЫ.**

СИТУАЦИЯ

# Разрешили остаться!

*Министерство внутренних дел разрешило остаться в Беларуси гражданину Ирана Мехрдаду Джамшидияну, которому на родине грозит смертная казнь.*

Как сообщил *БелаПАН* начальник департамента по гражданству и миграции **Алексей Бегун**, решение было принято на прошлой неделе *«по гуманитарным соображениям».*

Теперь Джамшидиян сможет подать документы для получения временного вида на жительство в Беларуси.

Мехрдад Джамшидиян приехал в Беларусь в 1993 году, занялся бизнесом, женился на белоруске. В его семье трое детей, все они граждане Беларуси. В Иране Джамшидияна обвиняют в убийстве матери и брата, которое было совершено в конце августа 2012 года, когда Джамшидиян находился в Беларуси. Он отрицает вину.

В случае депортации из Беларуси Джамшидияну грозит смертная казнь по обвинению в убийстве, пояснили правозащитники. Кроме того, иранец сменил веру, стал христианином, а, согласно иранским законам, вероотступничество также карается смертью.




С 2012 года Джамшидияна несколько раз задерживали белорусские власти для экстрадиции в Иран. Семь лет назад Генеральная прокуратура отказала в его выдаче, так как иранская сторона не предоставила необходимых документов.

В 2016 году иранец был лишен вида на жительство. С тех пор у него нет легального статуса в стране, поскольку истек срок действия иранского паспорта. Иран отказывается выдать Мехрдаду новые документы, поэтому он не может подать заявление на получение разрешения на проживание в Беларуси. Джамшидиян обращался за статусом беженца, но Беларусь ему отказала.

В июне 2018 года Джамшидиян в очередной раз был задержан и помещен в изолятор временного содержания для установления личности (стандартная процедура для иностранцев без действующих документов).

Решение о депортации иранца было принято 7 марта текущего года и вручено ему 15 марта. Оно было обжаловано адвокатом Джамшидияна.

14 мая Джамшидиян вышел на свободу после 11 месяцев нахождения в СИЗО, но в течение трех месяцев должен был покинуть Беларусь. Правозащитники безуспешно пытались найти страну, которая согласилась бы его принять.

naviny.by

SOS!

# «Выпіў чалавек – і мора яму ўжо па калена…»

*Толькі за мінулыя выхадныя ў Беларусі патанула 16 чалавек.*

Спякотнае надвор'е, якое было да апошняга часу ў Беларусі, традыцыйна падштурхоўвае людзей да вады. Ратавальнікі штогод папярэджваюць пра тое, як весці сябе на вадзе, але штогод знаходзяцца тыя, хто ігнаруе гэтыя элементарныя правілы, і, як вынік, гэта прыводзіць да трагедыі…

*«За апошні тыдзень патанула 46 чалавек, з іх трое дзяцей (усяго ж з пачатку года патанула 159 чалавек)*, – прыводзяць «Народнай Волі» сумную статыстыку ў Рэспубліканскім таварыстве ратавання на вадзе. – *За апошнія выхадныя – 16 трагічных выпадкаў, пры гэтым у Магілёўскай вобласці за суботу і нядзелю патанула 6 чалавек».*

– У суботу ў нашай вобласці патанулі два чалавекі, у нядзелю – чатыры, – удакладняе старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі ратавання на вадзе **Мікалай Маісееў**. – З гэтых шасці трагічных выпадкаў два суіцыды. 62-гадовы мужчына даведаўся, што хворы на рак, ускрыў сабе вены. Паклалі ў бальніцу, але збег адтуль на рэчку і ўтапіўся.

72-гадовая пенсіянерка таксама прыйшла на бераг ракі, распранулася, напісала перадсмяротную запіску і пайшла з жыцця. Астатнія чацвёра патанулі пры купанні, з іх трое былі ў нецвярозым стане. І гэта – старая бяда!

**– Спякота таксама спрые трагедыям?**

– Безумоўна, усе ж хаваюцца ад яе ў вадзе. Пры гэтым у асноўным купаюцца не ў зоне дзеяння ратавальных станцый, а там, дзе атрымаецца, нават у забароненых для купання месцах.

Як я казаў, алкаголь губіць людзей! Выпіў чалавек – і мора яму ўжо па калена. Цягне паказаць свой гераізм. Напрыклад, у Дрыбінскім раёне выпівала кампанія з трох чалавек – двое мужчын і жанчына. Паспрачаліся, ці пераплывуць на другі бераг возера. Пераплылі. А калі вярталіся назад, у 45-гадовай жанчыны не хапіла сіл, і яна патанула. Толькі зараз знайшлі яе.

Адным словам, многія самі ствараюць такія сітуацыі, якія часам заканчваюцца трагічна. Так і хочацца крыкнуць: «Беражыце сябе!»

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Вячеслав Бурский – дома

*Правда, из собственной квартиры бывший генеральный директор холдинга «БелОМО» уже больше трех месяцев не выходит. На телефонные звонки не отвечает и гостей не принимает. Вячеславу Александровичу Бурскому, которого еще зимой арестовали, изменили меру пресечения – с 8 марта он под домашним арестом.*

Вячеславу Бурскому 73 года, он доктор технических наук, профессор. На «БелОМО» начал работать с 1970 года – инженером. Из рук А.Лукашенко получил два ордена Отечества – II и III степеней.

Дело Бурского ведет КГБ, поэтому особых подробностей нет. Толком даже не известно, что ему инкриминируется. Слухи о задержании Бурского, который 27 лет руководил одним из самых известных столичных заводов, появились еще в конце января. На предприятии говорили, что гендиректора задержали не то в аэропорту, не то в России. Однако официальную информацию об уголовном деле дал не КГБ, а генеральный прокурор **Александр Конюк**. Случилось это в феврале. *«Не будем торопиться,* – сказал тогда Конюк. – *Что такое на человека возвести обвинение? Есть же семья, дети, родственники, не так все просто. Хочу дождаться более весомых результатов, потому что как судья знаю: бывают такие ситуации – и оправдательный приговор. А потом что делать? Как человеку в глаза смотреть?»*



Удивительно, не правда ли? Когда задерживают, например, представителей оппозиции, никто не думает, как потом в глаза людям смотреть. Взять хотя бы дело того же «Белого легиона». Обвинили людей почти во всех смертных грехах, продержали в СИЗО, а потом, как ни в чем не бывало, без извинений отпустили. Естественно, ни о какой компенсации за моральный ущерб и речи не идет! Да и других примеров, не только с оппозицией, – масса! А тут вдруг такая прокурорская политкорректность... Хотелось бы понять, на что намекал генеральный прокурор…



В середине февраля на ОАО «Минский механический завод имени С.И.Вавилова – управляющая компания холдинга «БелОМО» появился новый директор – бывший первый заместитель Бурского **Александр Мороз**. Назначая его, Александр Лукашенко вспомнил и уголовное дело Бурского: *«Там занижали цену на товар, а разницу делили между потребителем в России и часть клали себе в карман».*

*«Более 70 лет мужику. Жизнь свою закончит в тюрьме. «Хорошая» перспектива»*, – фактически вынес свой приговор Бурскому президент.

Собственно, вот и все официальные подробности.

Признает ли Вячеслав Бурский свою вину и что говорит в свое оправдание, как защищается – не известно.

Любопытно, что и на предприятии, которому почти 50 лет своей жизни отдал Вячеслав Бурский, и в БелАПП, и в Белорусской научно-промышленной ассоциации о судьбе экс-гендиректора никто ничего не слышал.

*«Чисто по-человечески, конечно, интересно, что с ним, чем закончилось уголовное дело, но у нас нет никакой информации»*, – сказал «Народной Воле» один из руководителей БелАПП. Практически то же самое повторяют и на заводе.

О том, что Вячеславу Бурскому изменили меру пресечения, никто официально не сообщал. Об этом стало известно «Народной Воле» от соседей и близких экс-гендиректора.

Экс-гендиректор БелОМО живет в самой обычной многоэтажке в центре Минска. Соседи по дому отзываются о нем позитивно. Говорят: никогда не кичился своим положением, живет скромно, приветливый. Сейчас у него есть некоторые проблемы со здоровьем – и возраст дает о себе знать, и стресс.

Буквально на днях Вячеслава Бурского исключили из президиума Республиканской ассоциации предприятий промышленности «БелАПП». Все произошло на годовом собрании БелАПП. Бурский об этом узнал, можно сказать, случайно, от посторонних людей. А мог, наверное, и вообще не узнать…

*«А что толку, что все переживают за его судьбу?* – говорят близкие Вячеслава Александровича. – *Никто публично ведь и слова в его защиту не сказал! Всеми владеет страх, вот и всё…»*

**На фото: в этом доме на последнем этаже находится квартира Вячеслава Бурского.**

**Марина КОКТЫШ.**
**Фото автора.**

ЛІСТЫ З ПАЛЕССЯ

# 6. Давыд-гарадоцкі рамантык, якому сняцца паўстанні

*Мы прагульваліся па вячэрнім Давыд-Гарадку над паўнаводнай пасля нядаўніх дажджоў Гарынню. Заканчваўся летні руплівы дзень, на вуліцы было шматлюдна. Кожны другі прахожы зычліва вітаўся з маім спадарожнікам. На мосце праз раку нас спыніў малады мужчына і пасля кароткай размовы проста на ходніку раптам… стаў на калені са словамі: «Віктар Васільевіч, вы былі найлепшым настаўнікам у маім жыцці!» Выглядаў той душэўны парыў шчыра, укленчаны мужчына быў абсалютна цвярозым… Мы ўсе чыесьці вучні, але ці часта выказваем удзячнасць сваім настаўнікам? Не паклонам – хоць бы віншаваннем з днём нараджэння ці прафесійным святам. Прызнацца, мяне ўразіў той выпадак, і я вырашыў бліжэй пазнаёміцца з настаўнікам гісторыі Давыд-Гарадоцкай СШ №1 Віктарам ВАБІШЧЭВІЧАМ.*

## Дзе вырас, там душой прырос

**– Віктар, вы ўжо 32 гады настаўнічаеце фактычна ў родных мясцінах – ад Давыд-Гарадка да вашай роднай вёскі Рубель рукой падаць. Пасля заканчэння гістфака БДУ вы вярнуліся на родную Століншчыну, каб пацвердзіць народную мудрасць – дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся?**

– Калі гаварыць папраўдзе, такога жадання ў мяне не было. Меркаваў стаць навукоўцам, паступіць у аспірантуру. У Давыд-Гарадок я прыехаў па размеркаванні. Але нечакана педагагічная праца мне спадабалася, і праз год-другі я ўжо не ўяўляў сябе дзесьці ў другім месцы. У свой Рубель я часта езджу на ровары, увогуле часта выпраўляюся ў роварныя вандроўкі па Століншчыне. Яна ўся мне блізкая і родная – і Рубель, і Альпень, і Беражное, і Гарадная. На гэтай зямлі я вырас і трывала да яе душой прырос.

**– Вас у Давыд-Гарадку ўсе ведаюць, паўсюль – у гасцініцы, цырульні, краме – працуюць вашы былыя вучні. Вы ўсіх іх памятаеце?**

– У нас дзве школы, у другой палове Давыд-Гарадка я не такі вядомы. А вучняў памятаю амаль усіх: і выдатнікаў, і двоечнікаў. Я на сваіх выхаванцаў стараюся ніколі не злавацца, прымаю іх праблемы блізка да сэрца. Вядома ж, многае ў іх паводзінах мне не падабаецца – кніжак амаль не чытаюць, на ўроках залішне развязна сябе паводзяць. Але паразуменне абавязкова знаходзім.

**– А часта былыя вучні дзякуюць настаўніку такім чынам, як сёння?**

– Дзякуюць часта. Але каб кленчыць… Падобнае здаралася ўпершыню і для мяне было поўнай нечаканасцю.

**– А вучня вы пазналі?**

– Так, гэта Эдзік Міжарэвіч. Школу ён скончыў гадоў 15 таму.

**– А ці лёгка сёння выкладаць гісторыю? У чым найбольшая праблема?**

– Праблема ў тым, што гісторыя амаль незапатрабаваная ў сучасным грамадстве. Якія прафесіі сёння самыя прэстыжныя? Айцішнікі, работнікі сілавых структур, нават пажарныя. Скажам, у 6-м класе гісторыя камусьці падабаецца. А сямікласніку бацька скажа: «Сынок, у настаўнікі я цябе не пушчу, там мала плацяць, лепш ты будзеш праграмістам. Сядай за фізіку і матэматыку». І сынок сядае, хоць да дакладных навук у яго душа не ляжыць.

## Кіеўская Русь – выдумка імперскіх гісторыкаў

**– Вы ўваходзілі ў метадычны савет па падручніках пры Міністэрстве адукацыі. Чым вы там займаліся?**

– Мы збіраліся і абмяркоўвалі падручнікі перад іх выпускам у свет. Цяпер савет той скасавалі. А шкада, бо існавала магчымасць уплываць на акадэмічных гісторыкаў. Нейк я проста ў вочы сказаў прафесару Георгію Штыхаву: «Я не чакаў, што вы будзеце падтрымліваць прыдуманую ў Маскве канцэпцыю Кіеўскай Русі. Як археолаг вы павінны разумець, што такога дзяржаўнага ўтварэння ніколі не было!» Я думаў, што ён усприме маю заўвагу ў штыкі – нейкі там настаўнік з правінцыі крытыкуе прафесара… Але Штыхаў нават узрадаваўся: «Вельмі добра, што вы маеце сваю пазіцыю. Калі ласка, напішыце на мяне скаргу!» Я аж разгубіўся. А потым зразумеў, што навукоўцы не заўсёды пішуць тое, што думаюць. З дапамогай гісторыі можна рабіць вялікую палітыку, гэта добра разумелі ўлады ўсіх эпох. Таму міфічная Кіеўская Русь (як папярэдніца вялікай Расіі) і сёння прысутнічае ў нашых падручніках.

**– Але ж вы тлумачыце вучням яе паходжанне?**

– Я вымушаны выкладаць так, як напісана ў школьнай праграме. Мала што я не пагаджаюся з нейкімі палажэннямі. Я працую ў дзяржаўнай школе і адступаць ад падручніка не маю права.

**– У беларускіх навучальных установах афіцыйна дазволена выкладаць гісторыю Беларусі па-руску. Гэта для вас прымальна?**

– Непрымальна, а што зробіш... Мушу ўдакладніць: на вялікі жаль, не проста дазволена, а мы абавязаны выкладаць гісторыю Беларусі ў рускамоўных школах па-руску. Ведаеце, у мяне вучняў былі трапяткія адносіны да прадмета «Гісторыя Беларусі», па-беларуску мы яе з большай ахвотай вывучалі. І беларуская мова не была для гэтага перашкодай. А цяпер – хочаш-не хочаш, а вымушаны выкладаць на рускай мове. Падручнікі пераклалі – гэта проста несусветная глупства. Калі нехта вельмі ўжо хацеў вывучаць гісторыю Беларусі па-руску, то можна было надрукаваць тых падручнікаў тысяч пяць. А выдалі 108.000…

**– У вашым родным Рублі я размаўляў з тамтэйшым настаўнікам французскай мовы. Школа там беларуская, а падручнікі завозяць на рускай мове. А Давыд-Гарадоцкая СШ №1 па статусе якая?**

– Рускамоўная. Прычым яшчэ з 1966 года. На пачатку 1990-х пачатковыя класы пабылі на беларускай мове, і на гэтым усё скончылася. Бачыце, у Рубельскую беларускамоўную школу цішком завозяць рускамоўныя падручнікі. Гэта ж яўнае парушэнне. Чаму так робіцца? Хай бы хоць раз у нашу рускамоўную беларускія падручнікі завезлі...

**– Як вы ўспрынялі нядаўнія нападкі на Кастуся Каліноўскага з боку афіцыйных асоб? Скажам, чыноўніца Міністэрства адукацыі Людміла Высоцкая (відаць, не з уласнай ініцыятывы) назвала яго «польскім мяцежнікам».**

– Той, хто нападае на Каліноўскага, у маіх вачах проста закрэсліае сябе як гісторык, як грамадзянін незалежнай Беларусі. Хоць бы «Мужыцкую праўду» пачыталі перад тым, як такія заявы рабіць. Каліноўскі – геройская і знакавая постаць у нашай гісторыі. Для мяне гэта відавочна і рэвізіі не падлягае. Добра, што ён у нас быў.

## «Настаўнік – таксама святар»

**– З вашага Рубля выйшла каля 300 бацюшак. А вы не шкадуеце, што сталі настаўнікам, а не святаром?**

– Не, шкадавання такога няма. Бо настаўнік – таксама святар, якому ў распараджэнне аддадзены дзіцячыя душы.

**– А чым вы патлумачыце такую прафесійную арыентацыю вашых землякоў?**

– Не абагульняючы, раскажу вам такую гісторыю. Малады рубелец любіў выпіць, нярэдка трапляў у пастарунак. Вярнуўся ён з войска і пытаецца ў мяне: «Параіце, куды мне ісці – у міліцыянеры ці ў папы». Я кажу: «Ідзі лепш у міліцыю, там цябе ведаюць, ды і святарская жыццё яўна не для цябе». Праз пэўны час мы сустракаемся, і ён прызнаецца: «Я ўсё ж вырашыў ісці ў папы. У міліцыі графік працоўны надта строгі. Выпадзе быць дзяжурным 31 снежня – усе святкаваць будуць, а ты сядзі на працы. Гэта мне не падыходзіць». Сёння, думаю, той рубелец гаварыў бы пра другое – пра выратаванне душы з дапамогай царквы, пра Божае пакліканне і г.д.



Віктар Вабішчэвіч.



Настаўнік і ўдзячны вучань.

**– А хіба з чалавекам не можа адбыцца пэўная эвалюцыя?**

– Адбыцца можа што заўгодна. Але я добра ведаю сваіх землякоў, чый галоўны прынцып: капейка да капейкі – рубель будзе. Адноўчы я паспрачаўся з калегам-гісторыкам з Акадэміі навук. Ён даводзіў, што Руская праваслаўная царква – больш палітычны інстытут, чым духоўны. Я не згаджаўся. Але сёння, назіраючы за падзеямі на Украіне, я вымушаны прызнаць рацыю калегі. Атрымала Украінская царква томас – РПЦ першая павінна была павіншаваць братоў па веры. Замест гэтага – абвінавачванні ў расколе праваслаўя. На якой падставе? Маскоўскія царкоўнікі забываюць пра галоўнае: мы ўсе – дзеці Бога.

**– Нейк па тэлевізару я назіраў, як на пасяджэнні Мінскага гарвыканкама больш чыноўнік спытаўся ў меншага – якой ты нацыянальнасці? І той, трохі разгубіўшыся, адказаў – палешук. Потым я высветліў, што родам ён з-пад Давыд-Гарадка, з Альпеня. Хіба існуе праблема з «палескай нацыянальнасцю»?**

– Няма ў нас такой праблемы. Праблема нацыянальнай ідэнтыфікацыі існуе ў цэлым па Беларусі. Згаданы вамі альпенец, відаць, прыстасаванец і вырашыў, што названца палешуком на тым пасяджэнні больш выгадна. Гэта своеасаблівы дагістарычны выкапень, які дэкларавалаў сваю беларускасць ва ўладзе не будзе. Бо ён адчувае – улада той беларускасці трохі пабойваецца. Таму і прыкінуўся косткай маманта, ад якой у музейнай вітрыне ніякай пагрозы не сыходзіць. Так, мы жывём на Палессі, але мы беларусы. Як насельнікі Брэтані ў Францыі – французы, і кожны з іх ганарыцца, што ён француз. І ўсе яны гавораць па-французску.

**– Дык, можа, для ўмацавання нацыянальнай свядомасці ў пэўных рэгіёнах Беларусі не шкодзіла б увесці нейкія ўрокі патрыятызму?**

– Урокі патрыятызму ў нашых умовах ператворацца ва ўслаўленне «вялікага князя». Зразумела, князь той не з XV стагоддзя... Урок, пра які вы кажаце, дае нам класічная беларуская літаратура. Тыя ж «Тутэйшыя» Янкі Купалы. П'есе больш за 100 гадоў, а яна і сёння надзвычай актуальная.

## «Тураўскі экспрэс» скараціў шлях да Мінска

**– Столінскі раён – самы вялікі ў Беларусі па плошчы. Праехаўшы яго з усходу на захад, я пераканаўся, што альшанцы выразна адрозніваюцца ад рубельцаў, альпенцы ад гараднянцаў. І звычаямі, і характарамі, і мовай.**

– Сапраўды мы рознімся, хоць, здавалася б, Століншчына кампактна ўваходзіла спачатку ў Вялікае Княства Літоўскае, потым у Рэч Паспалітую, потым у Расійскую імперыю, потым у 2-ю Рэч Паспалітую. Альпень ад Давыд-Гарадка зусім блізка, а я лёгка пазнаю альпенцаў па мове. Ці ўзяць вёску Хотамель, да якой кіламетраў дзесяць. Мы кажам *буў*, а хотамельцы – *быў*. Мая маці з Хотамля, то бацька часам мог іранічна выказацца па-хотамельску: *«Мыша, а Мыша, наша кошка сёння зЛавіла міш»*. (*Мыша* – гэта Міша, а *міш* – мыш).

**– У Давыд-Гарадку жыве каля 5000 чалавек, а прадпрыемстваў фактычна няма. За кошт чаго выжываюць людзі?**

– Думаю, што лічба 5000 не адпавядае сапраўднасці, добра, калі 4000 набярэцца. Што да працы, то многія займаюцца продажам кветкавага насення – ездзяць ажно ў глыбінную Расію. Як гаварыла адна наша кабета: «Завезла ў Сібір кішэню лебяды – прывезла кішэню грошай». Возяць, вядома ж, не кішэнямі, а мяхамі. І бывала, што сапраўды лебяду прадавалі... Не ўзышлі кветкі? Значыць, зямля неспрыяльная, не даглядаў і г.д. Нашы за словам у кішэню не лезуць. А яшчэ ў нас хлебазавод працуе. На электрамеханічным заводзе чалавек 200 заняты. Праўда, заробкі там мізэрныя.

**– Давыд-Гарадок (як і ўся Століншчына) фактычна адрэзаны ад цэнтральнай Беларусі. Бліжэйшыя масты цераз Прыпяць – у Жыткавічах і Пінску, што падаўжае дарогу прыкладна на 150 кіламетраў. Гэта для вас вялікая праблема?**

– Я так не сказаў бы. Па-першае, паміж намі і Прыпяццю – некранутыя мясціны, азёры, балоты. З'явіцца дарога – зблажэе ўся мясцовасць. Па-другое, на будаўніцтва дарогі і моста ў такіх умовах патрэбны велізарныя сродкі. На камунікацыю мае земляні не скардзяцца – ходзяць маршруткі «Тураўскі экспрэс», шлях да Мінска займае 3–4 гадзіны. Для тых, хто вельмі спяшаецца, ёсць паром у Кораб'і (каля Лунінца), але мы ім практычна не карыстаемся, пад'езды туды не дужа добрыя.

**– Віктар, колькі я памятаю, вы жывяце ў старым драўляным доме без усякіх выгод. Няўжо за ўвесь час мясцовыя ўлады так і не прапанавалі вам палепшыць жыллёвыя ўмовы?**

– Улады прапаноўвалі, але – за грошы. Завялікія для нашай сям'і. Зімой мы тут мёрзнем, дроў спальваем вагон. Але ва ўсім можна знайсці нейкі плюс. Мне тут да школы ісці тры хвіліны. Прызнацца, мы з жонкай ужо прывыклі да гэтага дома. Больш за 30 гадоў у ім пражылі. Два сыны выраслі, адзін цяпер у Мінску, другі ў Гомелі. Стараемся ім дапамагчы. Хоць настаўніцкі заробак – справа няпэўная. Сёлета табе дадуць дзве стаўкі – мецьмеш 1000 рублёў. А потым прышлюць яшчэ аднаго настаўніка, і атрымаеш менш за 500.

## «Гарынь не горшая за Фудзіяму»

**– Вас на Століншчыне ведаюць і як паэта, аўтара чатырох зборнікаў. Пісьменнік Янка Маўр апісваў востраў Цэйлон, Аўстралію і Акіянію, ні разу там не пабываўшы. У вашых кнігах прысутнічаюць і востраў Таіці, і італьянская Флярэнцыя, і французскі Правакс. Вы там пабывалі на крылах уяўлення?**

– У мяне складаней, чым у Маўра. Я чалавек абсалютна не мясцічны, але ў снах я неаднаразова бываў на Таіці. Памятаю нават, як я там выступаў перад абарыгенамі на французскай мове і заклікаў іх да паўстання.

**– А беларусаў вы ў снах да паўстання не заклікалі?**

– Не, ніколі. А таіцян – так. А ў Італіі я пражыў 40 дзён. Наведаў і Рым, і Флярэнцыю, і Ліворна, бачыў радовішчы, дзе здабываюць знакаміты каррарскі мармур. Нават пашчасціла ў складзе каталіцкай грамады трапіць на аўдыенцыю да Папы Рымскага Яна Паўла ІІ і коратка паразмаўляць з ім.

**– Я звярнуў увагу на адзін з вашых паэтычных цыклаў: яліны пад даждом, яліны ў змярканні, яліны ў спякотны поўдзень, яліны позняй восенню. Гэты цыкл нагадаў мне серыю малюнкаў японскага мастака Кацусіка Хакусая «36 выглядаў Фудзіямы». Сузірадць навакольнае хараство – наколькі гэта ў характары палешукоў?**

– Палешук найперш – працаўнік, руплівец, і проста сузіраць прыроду для яго нехарактэрна. Што тычыцца мяне, рамантыка па натуры, то я мог бы апісаць 36 краявідаў над маёй Гарынню. Паверце, Гарынь не горшая за Фудзіяму. Ёсць прыгожыя краявіды, на якія хочацца глядзець бясконца – у рознае надвор'е, пры іншым настроі.

**– Нядаўна я быў у Альшанах, што непадалёк ад Давыд-Гарадка. Дык у мяне склалася ўражанне, што альшанцы толькі пра агуркі і думаюць. А ці чытаюць вашы земляні кнігі, ці любяць паэзію?**

– Наколькі я магу меркаваць па тых літаратурных сустрэчах, якія штогод праводжу, – паэзію ў нас на Століншчыне любяць. Што тычыцца альшанцаў, то проста ў іх такі прагматычны падыход да жыцця. Альшаны – вялізная вёска (8000 жыхароў!), там можна пабачыць што заўгодна. Паэты чамусьці там не нараджаюцца, альшанцаў парнікі зацягнулі. Што ж, кожнаму сваё.

**Міхась СКОБЛА.**

СЛЫШАЛИ?

## Польша готовится к наплыву гастарбайтеров из Беларуси

*Об этом пишет польское издание Rzeczpospolita.*

Бегство белорусов на работу в Польшу началось два года назад, отмечает СМИ. *«Тогда из Брестской области на работу выехало в шесть раз больше людей, чем годом ранее. Феномен экономической эмиграции на Запад рос уже три года, но в этом году он явно ускорился. Стоимость жизни в Беларуси сопоставима с ценами в Польше, но средний заработок в четыре раза ниже»*, – пишет издание.

За последние 2–3 года число легальных агентств по трудоустройству по набору персонала для работы в Польше увеличилось в несколько раз, отмечает Rzeczpospolita. В настоящее время зарегистрировано более 50 таких компаний, работающих по всей Беларуси и занимающихся наймом сотрудников для польских работодателей.

Каждый год несколько тысяч белорусов уезжают в Польшу, отмечает издание и добавляет, что до 2017 года Россия была безоговорочным лидером по числу трудовых мигрантов из Беларуси. А с этого года стало заметно расти число выехавших на заработки в Польшу.

Rzeczpospolita поясняет, что белорусов в Польше привлекает более высокая зарплата. *«В этом году новым явлением является растущая экономическая миграция специалистов из Беларуси – врачей, преподавателей и ученых*, – отмечает издание. – *Они нужны и Польше, и странам Балтии – Литве, Латвии и Эстонии. Польша более привлекательна для белорусских специалистов не только из-за большого рынка труда, но и из-за языка. Белорусы быстро учат польский, сдают экзамены и часто работают по профессии. Они также готовы к любой работе, просто чтобы им платили лучше»*.

РАКУРС

## Кто бежит в Беларусь?

90% иностранцев, которые обращались в Департамент по гражданству и миграции за получением статуса беженца в Беларуси, – жители Украины, заявил начальник департамента Алексей Бегун.

«В топе стран, граждане которых наиболее часто обращаются с ходатайствами о предоставлении статуса беженца, – Афганистан, Палестина, Йемен, Россия, Армения», – добавил Бегун.

По его словам, на 1 июня этого года 331 иностранец обратился в органы внутренних дел с ходатайством о предоставлении статуса беженца или дополнительной защиты. Суммарно в минувшем году за предоставлением защиты в Беларуси обратилось 895 лиц.

ФОТА ДНЯ

## Справядлівая цана

*Вось такія плакаты з'явіліся на выхадзе з будынка аэрапорта Мінск.*




*«Народная Воля» в Facebook*
*www.facebook.com/nv.online.info*
*в Vkontakte*
*www.vk.com/nvonlineinfo*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# У мяне парада ёсць, як захоўваць маладосць

33-гадовы магілёўскі інжынер на добрым падпітку згледзеў на вуліцы пенсіянера, які меў зухаваты выгляд. Дзяцюк стаў цікавіцца ў дзеда, у чым сакрэт яго маладосці. Стары нешта адказаў і хацеў развітацца, але абураны такой «няўвагай» інжынер адным ударам збіў старога з ног. Хулігану пагражае тры гады зняволення.

Дзяцюк шукаў сабе прыгод,
Спярша заліўшы бельмы.
Таму пасунуўся ў народ –
Хацеў ён зносін вельмі.
Ды адварочвалі насы
Усе ад суразмоўцы.
Каму ён трэ, такі касы?
Як кажуць, нуль эмоцый.
І, прыглядзеўшыся як след,
Намеціў ён ахвяру.
Той чалавек на выгляд дзед,
Ва ўсякім разе з твару.
Аднак на цела – не стары,
Бадзёры, зухаваты.
Яго хоць зараз жа бяры
У спорт або ў салдаты.
Каб не адшыў яго атлет
І не выказваў злосці,
Дзяцюк спярша спытаўся:
– Дзед,
Ты мне скажы, у чым сакрэт
Такое маладосці?
Як быццам мірным быў намер,
І слушнае пытанне,
Таму яму пенсіянер
Сказаў пра харчаванне
І пра здаровы лад жыцця –
Грашыць патрэбна ў меру…
Тут не ўдалося адкрыцця
Зрабіць пенсіянеру.
Сабраўся дзед ісці далей,
Як даў яму параду.
Ужо і рушыў ён, але
Пачуўся вокрык ззаду.
– Не абыходзь на віражы! –
Гучалі грозна словы. –
Ты падрабязна раскажы
Пра лад жыцця здаровы!
Пенсіянер махнуў рукой:
– Вось быў бы ты цвярозым…
І з-за «нахабнасці» такой
«Паехаў» п’яны розум.
Свой гнеў дзяцюк стрымаць не змог,
Падскочыў з лютым тварам
І небараку-дзеда з ног
Зваліў адным ударам.
І што цяпер рабіць яму?
Стары ў гаротным стане…
Каб не патрапіць у турму,
Знаходзіць апраўданне:
– Я быў папросту п’яны ў дым,
Заліў свае глядзелкі!

* * *

Каб заставацца маладым,
Не трэба піць гарэлкі.

## Нічые

Не сканала заўчасна,
Доўга бабка жыла.
І была яна, ясна,
Самай мудрай з сяла.
– Мужыкі – кураняты, –
Чулі ўсе ад яе. –
Дзесяць метраў ад хаты –
І яны нічые…

## А рублі не вырвалі

У платнай клініцы лячыў
Мікола зубы,
І ўрачы
Усё-ткі вырваць зуб змаглі.
Але не вырвалі рублі…

## Культурны намёк

На секс культурна намякае
Дзяўчыне хлопец-лавелас:
– А вы прыгожая такая,
Што я хачу размножыць вас…

## Не здымаючы трусоў

Жыццё становіцца будзённым,
Мядовы месяц іх прайшоў,
Як пачынаюць маладзёны
Спаць, не здымаючы трусоў.

## Паразіт

Яго жыццёвы шлях такі
Ад першай да апошняй хвілі:
Спачатку песцілі бацькі,
А потым дзеці ўжо кармілі.

## Шчаслівая сям'я

У сям'і любой шчаслівай
Муж дамоў не носіць піва.
Ёсць другая завядзёнка:
Піва з крамы носіць жонка.

## Раздзельнае харчаванне

Марына занялася
Раздзельным харчаваннем:
Уранку корміць Вася,
Вячэраць ходзіць з Ванем.

З НАГОДЫ

# Ніякай плошчы Леніна ў Мінску няма




Нішто так не яднае народ, як яго мова. А калі народ згуртаваны, то ён моцны, і яго краіна багацее, становіцца рэальна незалежнай. Шкада, але нам гэтага так не стае.

Дзякуй калектыву «Народнай Волі» за адстойванне беларускай мовы! Выказваю вялікую ўдзячнасць кіраўніцтву Міністэрства транспарту, якое як ні адно іншае робіць шмат для папулярызацыі нашага роднага слова. Калі едзеш у аўтобусах, тралейбусах, трамваях, электрычках, адчуваеш, што знаходзішся менавіта ў Беларусі. Усе аб’явы гучаць па-беларуску, і гэта так прыемна чуць, як, дарэчы, і на чыгуначных вакзалах. І добра, што ў спалучэнні з беларускай мовай інфармацыя аб адыходзе і прыбыцці цягнікоў падаецца і на іншых мовах. Незразумела толькі, чаму да сённяшняга дня на галоўных будынках некаторых чыгуначных вакзалаў, аўтастанцый шыльды напісаны толькі па-руску. Вы можаце ўявіць сабе, што ў Маскве назва Беларускага вакзала пададзена на беларускай мове? Вядома ж, там такога няма. Дык чаму мы, беларусы, прагінаемся перад суседзямі?

І яшчэ. Калі я бываю ў Мінску і еду ў метро, чую: «Наступная станцыя «Плошча Леніна»?» Кіньце вы, сталічныя чыноўнікі, дурніцай займацца! Перад Домам урада даўным-даўно не плошча Леніна, а плошча Незалежнасці.

Даходзіць да смехатуры. Аднойчы я спытаўся ў дзяжурнага міліцыянера: «А як мне прайсці на плошчу Леніна?» Ён не зразумеў майго жарту, задумаўся, а потым сур’ёзным тонам адказаў: «Такой плошчы няма, засталася толькі шыльда на станцыі метро». Ну здыміце вы, панове, гэтую ганебную шыльду, і ўсе мы з метро будзем выходзіць на плошчу Незалежнасці.

Спадзяюся, што новы міністр транспарту не прыхільнік «русского мира» і прадоўжыць працу па адраджэнні беларускай мовы ў сваёй галіне.

**Мікалай АНТОНЕНКА, жыхар г.Светлагорска.**

ЕСТЬ ВОПРОС!

# Остался ли Семен Шапиро в Национальном олимпийском комитете?

*Знаю, что одно время бывший председатель Гродненского облисполкома Семен Шапиро руководил Федерацией хоккея и был на руководящих должностях в Национальном олимпийском комитете. В федерации уже давно другое начальство. А остался ли Шапиро в НОК?*

**Игорь ШЕВЧУК, г. Молодечно.**



Семен Шапиро по-прежнему является вице-президентом НОК.

– Но это такая общественная деятельность, – *ответил на вопрос «Народной Воли» Семен Борисович.* – В НОК есть один первый вице-президент – недавно избрали Виктора Александровича Лукашенко, и два заместителя – я и ректор Белорусского государственного университета культуры Сергей Репкин. Меня избирало Олимпийское собрание еще в те времена, когда я был руководителем Федерации хоккея. Значит, и от должности может освободить только Олимпийское собрание.

**– Нравится вам эта работа?**

– Я понимаю, что это не совсем мое. И когда будет следующее Олимпийское собрание, надо будет культурно попроситься уйти. Дело в том, что я связь со спортом практически потерял, в федерации уже не работаю.

На мой взгляд, в НОК должны работать те люди, которые живут спортом и влияют на спорт. Мне даже как-то и не совсем удобно за эту должность, потому что когда я работал в Федерации хоккея – это было логично. А когда ушел – нужно и отсюда уходить. Будет полезно и для страны, и для спорта, если на мое место придут те, для кого спорт – это вся жизнь.

**– Вас в свое время критиковали за деятельность в Федерации хоккея и удивлялись, что вы согласились ее возглавить…**

– А скажите: кого хвалили? Критикуют всех! Если будем чемпионами мира, может, и похвалят. А так мы 10–14-е в рейтинге хоккейных стран. Этим тоже можно гордиться, потому что маленькая Беларусь входит фактически первую-вторую десятку. В Канаде 500 тысяч занимаются хоккеем, в Америке – 700 тысяч, в Чехии – 100 тысяч, в России – больше 100 тысяч. А у нас – 5 тысяч. Тут уже всё зависит не столько от мастерства и таланта тренера, сколько от божьего дара ребят. Есть люди, которые уже рождаются с определенными талантами, им чуть трудолюбия – и вырастают Овечкины, Малкины и так далее.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

ПАЗІЦЫЯ

# Дзяржава не павінна стымуляваць банкрутаў

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь замацавала дзве раўнапраўныя формы ўласнасці: дзяржаўную і прыватную. У беларусаў з’явілася магчымасць працаваць не толькі на дзяржаву, але і распачаць сваю справу пад уласную адказнасць, калі да гэтага душа ляжыць…

Па стане на сённяшні дзень колькасць працоўнага насельніцтва, занятага на прадпрыемствах дзяржаўнай формы ўласнасці, складае 39,7 працэнта, прыватнаўласніцкай – 60,3. Варта звярнуць увагу на такую акалічнасць: кожная пятая прыватнаўласніцкая структура з’яўляецца так званай сімбіёзнай, у ёй спалучаюцца дзяржаўная і прыватная формы ўласнасці.

У Беларусі налічваецца каля 1,8 тысячы адкрытых акцыянерных таварыстваў з дзяржаўнай доляй, у тым ліку каля 660 – рэспубліканскай уласнасці, астатнія – камунальнай. У дзяржуласнасці знаходзяцца каля 60 акцыянерных таварыстваў з колькасцю працуючых ад тысячы да дзвюх тысяч чалавек, 289 таварыстваў з колькасцю працуючых да тысячы чалавек.

Як працуюць беларускія вытворцы? Але, перш чым адказаць на гэтае пытанне, зраблю адно ўдакладненне. Ці даводзілася вам адкрываць уласнае прадпрыемства? Асабіста я рабіў гэта тройчы. Які галоўны дакумент рэгулюе дзейнасць прадпрыемства? Правільна, статут. Якая галоўная мэта стварэння і дзейнасці прадпрыемства? Атрыманне прыбытку. Закон бізнесу: няма прыбытку – няма прадпрыемства, няма яго дзейнасці…

Скажыце, калі ласка, а ці магчыма такое: прыбытку няма, а прадпрыемства сябе добра пачувае? Паспрабуем разабрацца.

Паводле афіцыйнай статыстыкі, у Беларусі налічваецца каля пяці соцень прамысловых прадпрыемстваў, а гэта амаль трэць ад агульнай колькасці фабрык (30,8 працэнта), якія па выніках сваёй дзейнасці не маюць прыбытку. У ліку стратных прадпрыемстваў такія гіганты, як бабруйская «Белшына», Мінскі аўтамабільны завод, «Мотавела», «Гарызонт», «Гомсельмаш», Мінскі трактарны завод, барысаўскі «БАТЭ» і іншыя. Пры гэтым агульная сума чыстых страт за 2018 год павялічылася амаль у чатыры разы, да 628 мільёнаў рублёў, што эквівалентна 311,1 мільёна долараў. Сярод прадпрыемстваў сельскай гаспадаркі стратным з’яўляецца кожнае чацвёртае.

Агульная колькасць суб’ектаў гаспадарання і грамадскіх арганізацый, якія сустрэлі 2019 год з даўгамі перад беларускім бюджэтам, – **4480** (г.Мінск – 1490, Мінская вобласць – 900, Брэсцкая – 490, Віцебская – 450, Гомельская – 580, Магілёўская – 400, Гродзенская – 180).

На 1 студзеня 2019 года агульная запазычанасць прадпрыемстваў краіны дасягнула 123,6 мільярда рублёў, што на 2 мільярды рублёў больш, чым гадавы валавы ўнутраны прадукт Беларусі. Пры гэтым больш за 60 працэнтаў гэтай сумы прыпадае на запазычанасць па крэдытах і пазыках. Гэта азначае, што большую частку сваёй выручкі прадпрыемствы вымушаны накіроўваць на пагашэнне даўгоў. У 2018 годзе на пагашэнне крэдытаў і пазык прадпрыемствы накіравалі 60,7 мільярда рублёў – гэта 27,3 працэнта агульнай выручкі, або 58,3 працэнта валавога дададзенага кошту.

Такія шакіруючыя лічбы агучыла дырэктар Бізнес-саюза прадпрымальнікаў і наймальнікаў імя М.С.Куняўскага Жанна Тарасевіч 17 мая на XXV з’ездзе гэтай грамадскай арганізацыі. І дадала, што ў прамысловай галіне лічбы выглядаюць яшчэ больш катастрафічна.

У 2018 годзе прамысловыя прадпрыемствы Беларусі пры гадавым аб’ёме валавога дададзенага кошту 31,8 мільярда рублёў накіравалі на пагашэнне крэдытаў 39,8 мільярда рублёў. Гэта на 25,4 працэнта больш, чым яны змаглі зарабіць. Для параўнання: у 2017 годзе прырост такіх даўгоў складаў 3,9 мільярда рублёў.

Дадзеныя лічбы прашу не абсалютызаваць. Белстаткамітэт вельмі рэўнасна ставіцца да кожнай з іх. І правільна робіць. Бо інакш як патлумачыць, што прадпрыемства працуе-працуе, прыбытку няма – а заробак сваім працаўнікам выплачвае? Такога не можа быць пры нармальных рыначных адносінах. Але нам да гэтага вельмі і вельмі далёка. Эканоміка грунтуецца ў многім на адміністрацыйных высілках. Паступае каманда – і грошы з агульнадзяржаўнага бюджэту ідуць на падтрымку хранічна хворых прадпрыемстваў. Можа, варта Камітэту дзяржаўнага кантролю і Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь даць грамадству адказ на пытанне, чаму падаткаплацельшчыкі павінны ўтрымліваць банкрутаў?

Ад высокіх кіраўнікоў чуем: «Людзі – галоўны наш клопат. Нельга кідаць на волю лёсу тых жа рабочых аб’яднання «Гроднаазот». Так, пра народ трэба клапаціцца, але не так, як разумеюць многія чыноўнікі, набіваючы ўласныя кішэні хабарамі. Што, той жа памочнік прэзідэнта спадар Раўнейка думаў пра тое, як ратаваць ад банкруцтва прадпрыемствы Гродзенскай вобласці? Не, ён, вядома ж, кіраваўся шкурнымі інтарэсамі.

Безумоўна, дзяржава не павінна стаяць убаку ад эканамічных працэсаў. Але яна і не павінна быць дойнай каровай для тых, хто не можа працаваць у адпаведнасці з патрабаваннямі часу. Даўно пара звярнуць увагу на канкрэтнага чалавека. Давайце канстытуцыйна замацуем такія нормы:

– нараджаецца чалавек – у банку на яго адкрываецца рахунак і залічваецца 25.000 долараў;

– стварае чалавек сям’ю (першы шлюб) – атрымай ад дзяржавы падтрымку 50.000 долараў;

– вырашыў займацца бізнесам – атрымай ад дзяржавы падтрымку ў 30.000 долараў.

Адукацыя і медыцынская дапамога – бясплатныя.

З цягам часу напрамкі і аб’ёмы дзяржаўнай падтрымкі можна будзе і ўдакладніць, але кожны грамадзянін Беларусі з першых крокаў на гэтай зямлі пачне адчуваць рэальную ўвагу, павагу, падтрымку, у яго з’явіцца адчуванне самаідэнтыфікацыі, упэўненасць што ЁН – галоўны на гэтай зямлі.

Хтосьці скажа: а дзе грошы ўзяць? Крыніца адна – бюджэт. Толькі бюджэт павінен размяркоўвацца не так, як сёння, а з сацыяльным ухілам, аб чым я неаднойчы пісаў у «Народнай Волі».

**Васіль РУСОВІЧ. дацэнт, сацыёлаг.**

*Мінск.*

З ПІСЬМА

# Бадзяюцца ля сельмага, а ад работы адмаўляюцца

Кожны дзень чую пра беспрацоўе. Шчыра кажучы, я не разумею, што гэта такое. Я жыву пад Мінскам. Раней нам давалі па 25 сотак зямлі. Жонцы да пенсіі яшчэ тры гады, не можа кінуць пасаду ў дзяржструктуры. У мяне свая фірма. Хоць лопні, а не можам управіцца з агародам, садам. Пацікавіліся ў мясцовых: можа, хто ўзяўся б нам дапамагчы? Вядома ж, за грошы. І не паверыце, ніхто не ўхапіўся за нашу прапанову.

У той жа час кожны дзень бачу ля сельмага з дзясятак чалавек, якія не спяшаюцца на работу, а чакаюць, каб хутчэй ухапіць бутэльку гарэлкі ці віна і разваліцца ў цяньку пад бліжэйшымі дрэвамі. Вось загадка: нідзе не працуюць, а на пляшку спіртнога грошы знаходзяць. Дзе? Якім чынам?

Не, нешта незразумелае творыцца ў нашай краіне.

**Васіль КАРАВАЙЧЫК, кіраўнік прадпрыемства па вытворчасці будаўнічых матэрыялаў.**

ЗВАНОК У РЭДАКЦЫЮ

# Гэта перамога Ялінкі Салаўёвай, але не яе бацькі і яго паплечнікаў

У «Народнай Волі» за 14 чэрвеня надрукавана карэспандэнцыя Алеся Сівага «Ялінка Салаўёва працягне вучобу ў Беларускім гуманітарным ліцэі». У той жа дзень у рэдакцыю патэлефанаваў Казімір Казлоўскі з Гомеля (так ён назваўся) і сказаў:

– Ялінка, вядома ж, малайчына, свой першы экзамен у жыцці вытрымала на выдатна. Нялёгка было ёй дзевяць гадоў адной вучыцца ў беларускамоўным класе. Але што тычыцца яе бацькі, то я паставіў бы яму «неуд»…

– Чаму? Якія ў вас ёсць для гэтага падставы?

– А я ведаю, што бацька Ялінкі Зміцер Салаўёў доўгі час узначальваў абласную арганізацыю Партыі БНФ.

– Ну і што?

– А тое, што як грамадскі актывіст ён дрэнна працаваў, не змог сагітаваць другіх бацькоў, каб яны запісалі сваіх дзяцей у той жа беларускамоўны клас, у якім вучылася яго дачка.

– Дык гэтым павінны былі актыўна займацца і лідары другіх палітычных партый…

– Так, так. І не толькі палітычных партый. У Магілёве, як і ў нашым Гомелі, існуюць структуры ГА «Таварыства беларускай мовы». Яны што, не маглі падключыцца і разам вырашыць праблему?

Дыялог са спадаром Казлоўскім меў працяг. Але няма сэнсу пераказваць яго поўнасцю. Што ні кажыце, а ёсць рацыя ў яго словах. Колькі праблем магло б знікнуць, калі б тыя, хто прэтэндуе на ролю палітычнага ці грамадскага актывіста, больш займаліся рэальнай працай, а не толькі вінавацілі ва ўсім улады.

**Сяргей КОРЗУН.**

МЕРКАВАННЕ

# А калі мы навядзём парадак у нашых дварах?



Як дбайная гаспадыня рыхтуе хату да прыёму гасцей, так і нашы камунальныя службы вось ужо каторы тыдзень наводзяць парадак на трасах, гарадскіх вуліцах і плошчах у чаканні турыстаў і спартсменаў, якія вось-вось прыбудуць на ІІ Еўрапейскія гульні. Няцяжка ўявіць, якія агромністыя сумы грошай расходуюцца на вонкавы марафет тэрыторый у сувязі з чакаемымі міжнароднымі мерапрыемствамі. Але тут, як кажуць, нічога не папішаш, нельга неахайна сустракаць прадстаўнікоў многіх краін Еўропы і іншых кантынентаў.

У той жа час хачу паставіць рубам наступнае пытанне: а калі мы навядзём парадак у нашых дварах? Ля некаторых пад’ездаў можна ногі зламаць – паламаная плітка, ямы, смецце, якое вецер разносіць з незачыненых кантэйнераў. А калі ў дажджлівае надвор’е праязджаюць міма аўтамашыны, то таго і глядзі, што пырскі з-пад калёс, якія праз кожны метр трапляюць у напоўненыя вадой калдобіны, пакінуць непрыемны след на вашым касцюме.

Я не кажу, што ў Мінску ёсць яшчэ вуліцы (у раёнах прыватнай забудовы), дзе наогул не ляжыць асфальт, адсутнічаюць тратуары.

Закончацца ІІ Еўрапейскія гульні, і, лічу, увага мясцовых улад павінна быць звернута на ўпарадкаванне тых тэрыторый, да якіх раней рукі не даходзілі. Пры гэтым важна спланаваць работы такім чынам, каб усё было зроблена прыгожа і якасна, каб той жа асфальт не паплыў вясной з талай вадой.

**Зміцер КАНЦАВЫ, ветэран.**

СРАВНИМ

# Средняя продолжительность здоровой жизни в Европе почти такая, как ожидаемая продолжительность жизни в Беларуси

Жители Швеции лидируют среди европейцев *по продолжительности здоровой жизни*. Да, в Европе есть такой показатель – число лет, прожитых в хорошем состоянии здоровья. Он рассчитывается до конца жизни и учитывает текущие показатели заболеваемости.

При этом шведские мужчины в среднем будут жить дольше, чем женщины. Так, родившиеся в 2017 году шведы могут рассчитывать прожить 73,2 года в добром здравии, а шведки – 71,9 года. Среди пожилых европейцев Швеция тоже лидирует по продолжительности здоровой жизни: 65-летним мужчинам в среднем предстоит еще 15,4 года здоровой жизни, а женщинам – 15,8 года.

Такие данные приводят эксперты европейского статистического агентства Евростат. Они оценили продолжительность здоровой жизни европейцев, которая в среднем составляет 79% общей продолжительности жизни.

На втором месте в ЕС по продолжительности здоровой жизни оказалась Испания. Родившихся в 2017 году мальчиков в среднем ждут 69 здоровых лет, а девочек – 69,9 лет. Для пожилых людей в Испании этот показатель составил 12,3 года для женщин и 12,2 года для мужчин.

Третье место по продолжительности здоровой жизни в ЕС для детей заняла Италия, где и девочки, и мальчики в среднем проживут 68 здоровых лет. А для пожилых этот показатель оказался выше в Ирландии, где женщины в 65 лет могут рассчитывать еще на 13,3 года здоровой жизни, а мужчины – на 12 лет.

Меньше всего продолжительность здоровой жизни оказалась у латышей – 52,3 года для мужчин и 54,9 года для женщин.

В среднем в ЕС продолжительность здоровой жизни оценивается в 64,2 года для женщин и 63,5 года для мужчин.

В Беларуси обычная ожидаемая продолжительность жизни (без учета состояния здоровья) у мужчин составляет 69,3, у женщин – 79,2 года. В Европе эти показатели составляют 79,5 и 84,2 года соответственно.

МИРОВОЙ ОПЫТ

# Как в Шотландии делают дороги из пластикового мусора

*Эта технология помогает улучшить качество дорог и решить проблему пластиковых отходов.*



Инженер Тоби Маккартни изобрел способ создания дорог из перерабатываемого пластика, сообщает BBC. Компания Маккартни по производству дорожного покрытия MacRebur находится в Шотландии.

Из пластика предварительно изготавливают гранулы, которые производитель называет MR6, а затем добавляют их в асфальтную смесь. Они заменяют битум – продукт переработки нефти, из которого на 10% состоит обычный асфальт и который используют для затвердевания смеси. В MacRebur обещают, что технология позволяет прокладывать на 60% более прочные дороги, которые служат примерно в 10 раз дольше. «Процесс абсолютно такой же, как смешивание асфальта традиционным путем, но без добавления битума», – заявил один из работников завода.

Основатель компании отказывается полностью раскрывать состав инновационного дорожного покрытия, который знают только он и двое его друзей – сооснователей компании.

Благодаря своему изобретению шотландский предприниматель стал одним из победителей конкурса для британских предпринимателей Virgin Media Business VOOM – 2016, организованного компанией Virgin Media Buisiness миллиардера **Ричарда Брэнсона**. Маккартни получил финансирование в размере 50 тыс. фунтов. К марту 2017 года, то есть через девять месяцев после основания компании, в штате которой четыре сотрудника на полном рабочем дне, был зарегистрирован оборот в 160 тысяч фунтов.

Маккартни решил заняться исследованием рационального применения пластика после того, как узнал, что его дочь, когда ее в школе спросили, что живет в океане, ответила: «Пластик».

«Я не хочу, чтобы моя маленькая девочка росла в мире, где сложилось такое положение вещей», – заявил Маккартни в интервью BBC. Идея использовать пластик для строительства дорог пришла к нему после того, как в Индии он увидел, что местные жители пытаются бороться с неровными дорогами, вставляя в выбоины пластик и поджигая его. Первой дорогой, при проведении которой компания применила разработанную Маккартни технологию, стала дорога к его собственному дому. Сегодня дороги MacRebur проложены в графстве Камбрия в Англии.

По данным организации по переработке пластиков RECOUP, из 1,5 млн тонн перерабатываемых пластиковых отходов в Великобритании в 2015 году было переработано только 500 тысяч тонн. Участники рынка связывают это с тем, что потребители не знают, какие предметы могут быть переработаны, а местные власти не оказывают услуг по переработке пластиковых отходов.

СИТУАЦИЯ

# Huawei предсказала потерю 30 млрд долларов выручки

Президент китайского производителя смартфонов и оборудования для мобильной связи Huawei **Жэнь Чжэнфэй** заявил, что из-за санкций США продажи компании в 2019-м и 2020 годах не будут расти и останутся на уровне около 100 млрд долларов, передает Bloomberg. Потенциальный рост выручки на протяжении этих двух лет мог бы составить 30 млрд долларов.

Он добавил, что Huawei не ожидала, что ущерб от санкций будет столь существенным. Говоря о том, насколько компания была готова к такому развитию событий, он провел аналогию с самолетом. «*Мы защитили только двигатель и топливные баки и не смогли защитить другие части*», – сказал он.

Bloomberg также сообщил, ссылаясь на осведомленные источники, что менеджеры Huawei прогнозируют, что в 2019 году объем продаж смартфонов может упасть на 40–60 млн штук. Для сравнения: в 2018 году компания поставила 206 млн устройств (рост составил 33,6%), почти половина пошла на зарубежные рынки.

Как сказали источники агентства, компания может сократить поставки флагманской модели Honor 20. Ее продажи во Франции, Великобритании и других странах Европы стартуют 21 июня, но, если смартфон будет продаваться плохо, Huawei может отменить новые поставки.

Как известно, власти США считают, что Китай через оборудование для сетей 5G, которые поставляет в том числе и Huawei, занимается шпионажем. В мае 2018 года Минторг США внес в санкционный список Huawei и около 70 связанных с ней организаций, введя запрет на покупку технологий и оборудования у американских компаний, например ОС Android, которую разрабатывает Google. В конце месяца власти США выдали компании временную лицензию сроком на 90 дней, которая разрешает Huawei поддерживать существующие сети и устройства и обновлять ПО.

В ФОКУСЕ

# В Латвии введен налог на дождь

*Так называемый налог на дождь, или плату за очистку дождевых сточных вод, вводят во всем ЕС, а в Риге ее будут взимать с владельцев собственности в центре города.*

Отмечается, что самая высокая плата ожидает владельцев автостоянок, а не квартир и домов.

Как сообщалось, размер платы будет зависеть от площади территории и вида покрытия – трава, грунт или асфальт. В последнем случае плата выше. В среднем владельцу квартиры в многоэтажном доме придется платить за это 1,5 евро в месяц.

Новые правила распространяются на всех жителей и коммерсантов, с собственности которых дождевая вода попадает в общую канализационную систему.



БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА

# Президент ФРГ заявил о невозможности вести дела с Россией по-старому



Конфликт на востоке Украины и аннексия украинского полуострова Крым оказывают большое влияние на отношения Европы и России, заявил **Франк-Вальтер Штайнмайер** в Финляндии, где в эти дни проходила конференция по внешней политике и политике безопасности.

Европейским странам следует поддерживать с Россией менее близкие отношения, чем прежде, констатировал он.

По мнению Штайнмайера, недопустимо молча одобрять, что пространство для свободы выражения мнений российского гражданского общества все больше сужается. Недавнее задержание и дальнейшее освобождение корреспондента интернет-издания «Медуза» Ивана Голунова вновь демонстрирует, что необходимо сохранять бдительность, заявил глава германского государства.

«Наши собственные способности по изменению России ограничены», – отметил президент Германии. По его словам, Европе следует «в большей степени осознавать» это «в интересах более функционального партнерства».

В летней резиденции президента Финляндии вечером 16 июня началась двухдневная конференция по внешней политике и политике безопасности. В мероприятии участвуют около 100 человек.

СОСЕДИ

# До 2022 года Литве нужно будет около 105.000 новых работников

*Такие цифры привел Центр мониторинга и анализа науки и высшего образования (ЦМАНВО).*

95% новых работников заменят вышедших на пенсию, эмигрировавших, умерших и покинувших рынок труда в силу других причин.

Глава Отдела анализа политики в области высшего образования и карьеры ЦМАНВО Гинтаутас Якштас говорит, что в течение четырех лет понадобится около 50 тысяч высококвалифицированных работников – врачей, библиотекарей, архивных и музейных специалистов. За четыре прошедших года в связи с сокращением численности населения число наемных работников выросло на 6% – это обусловлено снижением уровня безработицы, ростом числа иностранцев и повышением уровня занятости людей более старшего поколения. Якштас говорит, что на рынке труда остаются работники все более старшего возраста, однако с возрастом их доходы снижаются.

ПЕЧАЛЬНЫЙ ФАКТ

# Самая смертельная форма рака в ЕС

Для жителей ЕС рак легких оказался самой распространенной причиной смерти, вызванной онкологическим заболеванием. 21% европейцев, умерших от онкологических заболеваний, страдали именно от рака легких, сообщает европейское статистическое агентство Евростат.

На втором месте по онкологической причине смерти оказался рак простаты у мужчин (5,7% всех смертей, вызванных раком) и рак груди у женщин (5%). На третьем месте – разновидности рака кишечника, они привели к 3,4% смертей от онкологических заболеваний.

Как отмечают эксперты Евростата, курение, которое часто становится причиной рака легких, – один из самых больших рисков для здоровья у европейцев, которых можно избежать.

СЛЫШАЛИ?

# Польша укрепляет восточный фланг

Страна-соседка собирается разместить американские войска как минимум в шести точках страны. НАТО хочет укрепить восточный фланг, а значит, и восточную часть Польши. Об этом сообщил министр обороны Польши **Мариуш Блащак**.

Точное месторасположение подразделений пока не называется, ведутся переговоры.

– В соглашении есть пункт, в котором говорится, что эти места будут иметь место в соглашении обеих сторон, мы будем принимать совместное решение. Важно укрепить восточный фланг НАТО, а значит, и восточную часть нашей страны, – сказал Блащак, передает wiadomosci.onet.pl.

По словам министра, присутствие американских войск в Польше будет сдерживать возможного агрессора.

– Возможный захватчик знает, что нарушение польских границ означает не локальный конфликт, а глобальный. Присутствие американских войск является гарантией того, что атака на Польшу является атакой на весь альянс НАТО. Это, несомненно, отпугивает, – сказал Блащак, передает «Польское радио».

В Польше создадут дивизионное командование: ему будут подчиняться войска США на восточном фланге НАТО.

Блащак заявил, что соглашение о военном сотрудничестве, подписанное президентами Анджеем Дудой и Дональдом Трампом, изменило характер американского военного присутствия в Польше. Оно подразумевает постоянное присутствие американских солдат на территории страны.

Сейчас в Польше находится 4,5 тысячи американских солдат, по условиям нового соглашения, численность увеличится еще на тысячу.

Польша сама инициировала размещение американской военной базы на своей территории для «сдерживания опасной позиции России». Власти также заявили о готовности выделить на обустройство базы 2 млрд долларов.



О ЧЕМ ГОВОРЯТ...

# Бабич вновь займется переговорами с Беларусью?

*Бывший посол России в Беларуси **Михаил Бабич** назначен заместителем министра экономического развития РФ.*

Соответствующее распоряжение подписал глава правительства России Дмитрий Медведев.

Важно отметить, что министром экономического развития РФ является Дмитрий Орешкин – с конца 2018 года он возглавляет со стороны России рабочую группу по урегулированию проблемных вопросов и развитию интеграции.




На днях Орешкин после встречи с главой белорусской группы министром экономики Дмитрием Крутым заявил, что стороны согласовали примерно 90% программы углубления интеграции двух стран. Документ обсудят премьер-министры 21 июня в Минске.

К слову, вчера после назначения Бабича пресс-секретарь президента России Дмитрий Песков в комментарии ТАСС рассказал, чем тот займется на новом посту.

«*Бабич во многом продолжит заниматься интеграционной тематикой*», – сказал Песков. Он отметил, что наверняка в министерстве у Бабича будет и много других обязанностей, но «*во многом он будет заниматься координацией и организацией*» работы в рамках «*самых различных интеграционных процессов*».

ПОЗИЦИЯ

# В Норвегии больше нельзя вырубать деревья

*Правительство Норвегии больше не будет закупать товары, связанные с вырубкой деревьев. И с любой компанией, которая сокращает и уничтожает тропические леса, не будут заключаться государственные контракты.*

За последние несколько лет ряд компаний уже прекратил закупки таких товаров, но до сих пор это не было подкреплено аналогичными обязательствами от правительства. И вот свершилось. Норвегия станет первой страной в мире, полностью отказавшейся от товаров, для производства которых уничтожаются тропические леса. Теперь будут предъявляться строжайшие требования к государственным закупкам, чтобы защитить леса всей планеты.

Норвегия призывает и другие страны, в частности Великобританию и Германию, делать то же самое.



ВНИМАНИЕ!

# Эпидемия в Таиланде

В одном из самых популярных туристических государств объявили об эпидемии геморрагической лихорадки Денге. По данным местного Департамента по контролю за заболеванием, с начала этого года в королевстве только по официальным данным зафиксировали 28.785 случаев инфицирования, из которых 43 закончились летальным исходом.

Заместитель гендиректора ведомства доктор Причи Премпри назвал этот показатель больше средних за пять лет и отметил, что из-за схожего климата в соседних с Таиландом странах ситуация аналогичная.

Денге – это вирусная инфекция, передаваемая комарами. Инфекция вызывает гриппоподобное заболевание и иногда приводит к развитию потенциально летального осложнения, называемого тяжелой лихорадкой Денге.

# Забытая слава

## Кароткі агляд ваеннай гісторыі Беларусі



*Гэты абагульняючы матэрыял з’явіўся яшчэ ў дзевяностыя гады мінулага стагоддзя. Пад агульнай рэдакцыяй доктара гістарычных навук М.Ткачова яго падрыхтавалі Г.Штыхаў, Г.Сагановіч, С.Тарасаў, А.Дзярновіч, Ю.Бохан, У.Кănановіч, У.Амяльянчык, В.Герасімаў, С.Таляронак, М.Сткевіч. Лічым мэтазгодным пазнаёміць з ваеннай гісторыяй Беларусі чытачоў «Народнай Волі».*

Лёс Беларусі вылучаецца сваёй веліччу і трагізмам. Стагоддзі амаль няспынных войнаў, неабходнасць пастаянна адваёўваць у прыроды яе даброты, не выпускаючы з рук меча, сфарміравалі ў беларуса адметны характар, які выклікае захапленне і здзіўленне адначасова. Суседзі адзначаюць, што беларусы – «народ мяккасардэчны, гасцінны, працавіты, кемлівы, набожны, вясёлы, цярплівы, няпомслівы, палка прывязаны да ўсяго, што звязана з гаспадараннем». Народ наш вызначаецца патэнцыяльнай здатнасцю да культуры і далікатнасцю, ахайнасцю і тактоўнасцю. Дэмакратычныя традыцыі беларускай дзяржаўнасці выпрацавалі ў беларускага люду рэлігійную талерантнасць і павагу да іншых поглядаў і разам з тым – імкненне захаваць сваю асабістую незалежнасць. Прага асабістай аўтаноміі і самастойнага гаспадарання спрадвеку пераважалі ў беларуса над калектывісцкімі ідэямі, што не выключала ўзаемадапамогі ў выпадку патрэбы. Спробы пранікнуць у свой унутраны свет беларус дапускае вельмі рэдка. Як імунітэт на пастаянныя намаганні «дабрадзеяў» з усходу і захаду падпарадкаваць сабе беларуса і навязаць яму свае прынцыпы і погляды фарміравалася беларуская скрытнасць і недаверлівасць. Нягледзячы на сваю гасціннасць і мяккасць, беларус скептычна ставіцца да чужых людзей, а тым больш ідэй, затое за ідэі, якія ўспрымае як свае, змагаецца з выключнай мэтанакіраванасцю і ўпартасцю.

Замкнёны і часам схільны да адзіноты і роздуму, беларус – натура надзвычай паэтычная. Багацце фантазіі і некаторая містычнасць дазволілі беларускаму люду стварыць выклюны па багацці фальклор і выпрацаваць мову, якую А.Міцкевіч назваў самай дасканалай і найбольш захаванай з усіх славянскіх моў.

Любоў беларуса да сваёй Радзімы, якую ён можа пакінуць толькі пад уплывам крайняй неабходнасці, уражвала іншаземцаў, асабліва рускіх, якія адзначалі, што беларусу «глыбока праціўна думка хаця б часова развітацца з роднымі мясцінамі». Менавіта гэтая любоў і павага да сваёй зямлі, а таксама выхаваная стагоддзямі павага да правоў суседа прывялі да адсутнасці ў беларускага народа агрэсіўнасці і духу каланізатарства. Так, людзі нашай зямлі талерантныя і добразычлівыя. Але галоўная трагедыя нашай зямлі, што лёс даў нам неталерантных і нядобразычлівых суседзяў. Наша культура, якая стагоддзямі жывіла тады яшчэ далёка не дасканалыя культуры суседзяў, наша зямля, ператвораная з балота і лесу працай і розумам нашых продкаў у квітнеючы сад, сталі спакуслівым кавалкам для шматлікіх «старэйшых братоў», якія надалі сабе права спажываць тое, што не стварылі. І вось сталася тое, што сталася. Мы, чые продкі калісь былі адным з самых слаўных у Еўропе народаў, робімся калі не адміністрацыйнай, то духоўнай правінцыяй «единой и неделимой». Мы, чыя культура роўная іншым еўрапейскім культурам, мусім, аддаўшы яе па частках суседзям, якія з тых частак здолелі зрабіць нацыянальны гонар, падбіраць аб’едкі. Мы, еўрапейская краіна, перад якой адчынены ўвесь свет еўрапейскай цывілізацыі, усцяж паўтараем гэтую цывілізацыю на мове краіны, якая знаходзіцца пераважна ў Азіі...

Дзіўны наш народ. Дужы і сумны. Меў герояў – і ніхто іх не ведае... Усё жыццё любіў волю – і яго прымусілі стаць рабом... Стварыў багацце культуры – і сам яе не ведае... Аднак не ўсё яшчэ страчана. Ёсць пакуль што шанц, можа, апошні, усвядоміць сябе людзьмі, народам з Вялікай гісторыяй і культурай, аднавіць тое, што амаль згублена, каб паказаць, што «жывы яшчэ наш народ, і жыць ён хоча, і жыць ён можа, і жыць ён будзе!».

**I.** Амаль паўтары тысячы гадоў таму на заселеныя балтамоўнымі плямёнамі абшары Беларусі пачалі прыходзіць славяне. Змешванне славянскага насельніцтва з балцкім у басейнах верхняга Дняпра і Заходняй Дзвіны выдзеліла гэты рэгіён сярод іншых заселеных усходнімі славянамі тэрыторый. Тут у выніку славяна-балцкага сінтэзу ў VIII–X стагоддзях утварыліся прабеларускія этнічныя супольнасці крывічоў, палачан, дрыгавічоў і радзімічаў, у культуры і мове якіх спалучаліся як славянскія, так і балцкія элементы. На іх аснове пачалося фарміраванне беларускай народнасці. Продкамі беларусаў у аднолькавай ступені былі як славяне, так і балты. (Нашчадкамі балтаў з’яўляюцца сучасныя латышы і літоўцы, якіх раней называлі жмудзінамі.)

Адным з самых магутных племянных аб’яднанняў Усходняй Еўропы быў крывіцкі саюз. Частка крывічоў, названая ў самым старажытным летапісе палачанамі – гэта значыць жыхарамі раннефеадальнай дзяржавы – Полацкай зямлі, адразу вызначылася сваёй знешнепалітычнай актыўнасцю. У 907 і 911 гадах яны разам з войскам, якое сабраў князь Алег, хадзілі паспяховымі паходамі на Візантыю і перамагалі рамеяў. Гістарычныя крыніцы сведчаць, што знаёма нашым продкам была ваярская навука не толькі на сушы, але і на моры. Іх баявыя лодзіі-караблі добра адчувалі сябе як на рачных, так і на марскіх прасторах, падыходзілі пад непадступныя муры Канстанцінопаля.

У канцы X стагоддзя летапісы паведамляюць пра полацкага князя Рагвалода, які быў зусім самастойным і незалежным, – «трымаў, валадарыў і княжыў Полацкую зямлю». У яго час Полацкая зямля-княства стала настолькі магутнай і вядомай дзяржавай, што саюза з ёй шукалі іншыя валадары. Адзін з іх, князь Уладзімір (спачатку ноўгарадскі, потым вялікі князь кіеўскі), абражаны адмовай у дынастычным шлюбе з полацкай князёўнай Рагнедай, здолеў захапіць у палон і забіць Рагвалода. Дачку Рагвалода, Рагнеду, ён прымусова ўзяў у жонкі. Беларуская патрыётка Рагнеда зрабіла няўдалы замах на жыццё Уладзіміра і затым апынулася з сынам Ізяславам у Полацкай зямлі. З тае пары, як адзначыў летапісец, «узнімаюць меч Рагвалодавы ўнукі супраць унукаў Яраслава Мудрага (сына Уладзіміра)», які княжыў у Кіеве.

Ізяслаў княжыў у Полацку да 1001 года. У 1003 годзе князем полацкім стаў яго сын Брачыслаў. Зноў пачалася барацьба паміж Полацкам і Кіевам, якая працягвалася з перапынкамі больш за 100 гадоў. Полацкія князі ўпарта абаранялі сваё княства, імкнуліся павялічыць яго за кошт суседніх тэрыторый. У 1021 годзе адбылася ўзброеная сутычка Брачыслава з Ноўгарадам, які полацкаму князю часова ўдалося захапіць.

Звыш 50 гадоў узначальваў полацкія дружыны ваяўнічы князь Усяслаў Брачыславіч. Ваенныя поспехі Усяслава, яго ўменне непрыкметна апынуцца там, дзе яго зусім не чакалі, сучаснікі лічылі чараўніцтвам. Нават на ворагаў рабіла моцнае ўражанне ўменне полацкага князя знайсці выйсце з самага цяжкага становішча, асабліва ў час бою. Рашучасць і энергія, з якой ён абараняў незалежнасць Полацкай зямлі, былі выключнымі. У 1065 годзе Усяслаў асаджаў Пскоў, праз год захапіў часова Ноўгарад. У 1067 годзе адбылася бітва паміж «русічамі» і палачанамі. Берагі Нямігі былі «пасеяны касцьмі рускіх сыноў», але Усяславу давялося адступіць. У 1068 годзе Усяслаў Полацкі паўстаўшымі кіяўлянамі быў выбраны на вялікакняжацкі трон у Кіеве, але хутка вярнуўся ў родны Полацк і працягваў барацьбу, клапоцячыся аб яго незалежнасці. Адносіны кіеўскіх князёў з Полацкам працягвалі заставацца ў першай трэці XII стагоддзя вельмі вострымі. У гэты час Кіеўская Русь канчаткова распалася, а Полацк доўгі час заставаўся самастойнай дзяржавай.

**II.** Доўгі час насельніцтву Полацкай дзяржавы і суседніх зямель Прыбалтыкі даводзілася весці ўпартую барацьбу са знешнімі ворагамі, іх спробамі пазбавіць крывічоў-палачан самастойнасці, захапіць і падначаліць сваёй уладзе. На пачатку XIII стагоддзя разам з лівамі, латгаламі, эстамі – продкамі латышоў і эстонцаў – палачане змагаліся з нямецкімі рыцарамі, якія ўварваліся ва ўсходнюю Прыбалтыку. Заваёўнікам дапамагала каталіцкая царква. Сумеснымі намаганнямі быў створаны царкоўна-рыцарскі ордэн мечаносцаў.

Нямецкія рыцары разбілі атрады ліваў, захапілі зручную Земгальскую гавань. На яе месцы ў 1201 годзе была пабудавана крэпасць Рыга. Гэты горад стаў цэнтрам нямецкага гандлю і дзейнасці манахаў-католікаў ва ўсёй усходняй Прыбалтыцы. Будуючы невялікія мураваныя крэпасці і апіраючыся на іх, рыцары-крыжакі прасоўваліся ўверх па Заходняй Дзвіне ды пагражалі Полацку.

Лівы і латгалы з даўніх часоў плацілі даніну полацкім князям і пастаўлялі ім дапаможныя войскі. Задоўга да з’яўлення тут немцаў у ніжнім цячэнні Дзвіны (па-латышску Даўгавы) знаходзіліся гарады-крэпасці Кукенойс (цяпер Кокнэсе) і Герцыке (Ерсіка), якімі кіравалі васалы полацкага князя. З’яўленне нямецкіх крыжакоў ва ўсходняй Прыбалтыцы пагражала Полацку стратай падуладных яму зямель.

Атрады з Полацка і іншых гарадоў дапамагалі насельніцтву Латвіі і Эстоніі адбіваць напады рыцараў. Прыкладам, дружыны полацкага князя Уладзіміра аблажылі дзве нямецкія крэпасці летам 1203 года. У 1206 годзе палачане зноў прыйшлі на дапамогу лівам.

Рыцары наблізіліся да горада Кукенойса. Тут княжыў Вячка (Вячаслаў), які паходзіў з дынастыі полацкіх князёў і падпарадкоўваўся полацкаму князю Уладзіміру. З невялікай дружынай ён доўга мужна адбіваўся ад захопнікаў, але не атрымаў своечасова дапамогі ад полацкага князя. У 1208 годзе Вячаслаў мусіў спаліць Кукенойскі замак і з дружынай у 200 чалавек перайшоў на ўсходнеславянскія землі. Пазней ён узначальваў ваенныя сілы ў крэпасці на тэрыторыі эстаў у горадзе Юр’еве (цяпер Тарту) і загінуў у жорсткім баі з крыжакамі (1224 г.). Вячка быў сапраўдным героем барацьбы з нямецкімі рыцарамі.

У 1209 годзе нямецкія рыцары абрабавалі і спалілі другі старажытны фарпост Полацкага княства ў нізоўях Дзвіны – горад Герцыке. Калі крыжаносцы ўварваліся на землі эстаў, то апошнія звярнуліся за дапамогай да полацкага князя Уладзіміра. У 1216 годзе палачане сумесна з эстамі і літоўцамі рыхтавалі вялікі паход супраць мечаносцаў. Аднак у дзень выступлення з Полацка Уладзімір нечакана памёр (відаць, быў атручаны падасланымі людзьмі), і паход сарваўся. Каб супрацьстаяць узрастаючай небяспецы, Полацк і Віцебск мусілі ўмацоўваць палітычныя сувязі з Ноўгарадам.

У 1240 годзе князь Аляксандр разграміў на Няве войска шведскіх рыцараў. Здабываць перамогу яму дапамагалі і палачане, якія змагаліся на баку Аляксандра Неўскага. Апавядаючы пра бітву ў адным з летапісных твораў, сучаснік адзначыў подзвігі шасці найбольш адважных воінаў. Сярод гэтых герояў быў названы і беларус Якаў з горада Полацка. Узброены толькі мечам, праявіўшы выключную мудрасць, ён напаў на цэлы атрад (на старажытнай мове «полк») шведаў і адзін вытрымаў бой супраць рыцараў.

**III.** У XIII стагоддзі пад пагрозай крыжацкай агрэсіі з захаду і мангола-татарскай з усходу пачаўся працэс аб’яднання асобных княстваў на абшарах Беларусі. Цэнтрам кансалідацыі стала летапісная Літва, размешчаная паміж асноўнымі этнічна-беларускімі землямі – Полацкай, Турава-Пінскай, Навагрудскай. Калі ў 1240-х гадах адзін з літоўскіх князькоў Міндоўг з прычыны ўнутраных разладаў перабег у Навагрудак і прыняў там хрысціянства, феадалы гэтага беларускага горада абралі яго сваім служылым князем. З дапамогай навагрудцаў Міндоўг падпарадкаваў сабе Літву, затым ягоны сын Войшалак падначаліў суседнія балцкія землі Дзяволтву і Нальшчаны, а яшчэ пазней уладу Навагрудка добраахвотна прызналі Полацк і Пінск. Гэтае дзяржаўнае ўтварэнне – аб’яднанне Літвы, Нальшчанаў, Дзяволтвы, Піншчыны ды Полаччыны вакол Навагрудка – стала першым этапам збірання Вялікага Княства Літоўскага, ядром новага гаспадарства з поліэтнічным насельніцтвам.

Пад канец XIII стагоддзя пры князі Віцені ў склад Вялікага Княства Літоўскага ўвайшла Берасцейская зямля, а пазней – увесь поўдзень Беларусі. Пры князі Гедыміне да княства далучылася большая частка этнічна беларускай тэрыторыі. Аб’яднанне адбывалася на аснове ўзаемадамоўленасці, якая гарантавала захаванне асаблівасцяў мясцовага самакіравання, гаспадарчага і сацыяльнага жыцця. У 1323 годзе вялікі князь Гедымін перанёс сталіцу дзяржавы ў Вільню. Пры ягоным наступніку Альгердзе ў склад Вялікага Княства Літоўскага ўвайшло левабярэжжа Дняпра ды нізоўе Прыпяці, а пры Вітаўце – Смаленшчына. Так завяршылася ўключэнне этнічна беларускіх зямель у магутнае гаспадарства Еўропы, у якім колькасна дамінавала беларускае насельніцтва, дзяржаўнай мовай была старабеларуская, а ў культурным жыцці дамінаваў беларускі элемент. Тагачасныя беларусы зваліся «літвой» ці «ліцвінамі».

Аднак дзяржава будавалася ў далёка не мірных умовах. З 1203-га па 1413 год насельніцтва Беларусі выцерпела безліч ваенных паходаў крыжакоў, зрабіўшы свой важкі ўклад у справу агульнаеўрапейскай барацьбы народаў Еўропы супраць крыжацкай агрэсіі. Яна ўсякі раз праходзіла праз землі Падзвіння і Панямоння.

З пачатку XII ст. Полацк і Віцебск сталі адыгрываць ролю багатырскіх застаў на шляху крыжацкай агрэсіі ў Падзвінні, наглуха зачыніўшы крыжакам ход па Дзвіне ўглыб беларускіх зямель, на Смаленшчыну і Масковію.

Летам 1236 года войскі ордэна мечаносцаў былі разгромлены каля Шаўляя аб’яднаным беларуска-літоўскім войскам. Гэта прымусіла мечаносцаў пайсці на аб’яднанне з Тэўтонскім ордэнам і ўтварыць сумесны Лівонскі ордэн са сталіцай у Рызе. Рыцары і надалей працягвалі свой агрэсіўны курс у дачыненні да народаў Прыбалтыкі, Беларусі, земляў Пскоўшчыны і Наўгародчыны. За перыяд з 1230-га па 1284 год тэўтонцы падпарадкавалі Прусію і зрабілі яе базай для сваіх паходаў на суседнія тэрыторыі. У процістаянні ім гартавалася баявая вывучка беларускіх палкоў. Асабліва праявілі сябе палачане і віцябляне ў бітвах ля возера Дурбэ (1260) і Ленавардэнам (1261).

Узброеныя сілы Лівонскага ордэна дзейнічалі не толькі ў беларускім Падзвінні. З 1250 года яны пачалі рабіць набегі ўглыб Панямоння. Так, у 1250 годзе магістр Лівонскага ордэна Андрэй фон Шцірлянд напаў на Навагрудак, але захапіць яго не здолеў. У 1284 годзе зрабілі свой першы паход на Гродна крыжакі з Прусіі. Сюды яны яшчэ будуць прыходзіць каля 20 разоў. Пачынаючы з сярэдзіны XIII стагоддзя і па 1345 год крыжакі зрабілі 30 паходаў. Прускі ордэн зрабіў 70 паходаў, а Лівонскі – 30 паходаў. У часы праўлення Кейстута (1345–1382) саюзнае беларуска-літоўскае войска адказала 30 паходамі на Прусію, 10 паходамі на Лівонію. За адносна кароткі перыяд (37 гадоў) было зроблена з абодвух бакоў 140 паходаў. Прычым за апошнія 12 гадоў праўлення Кейстута (1370–1382 гг.) адбылося 75 паходаў. У сярэднім па шэсць паходаў у год. Больш як 15 паходаў было зроблена крыжаносцамі ў часы праўлення Вітаўта (1352–1430 гг). Апошні драпежніцкі паход крыжакі з Лівоніі зрабілі ў 1413 годзе.

Землі Беларусі і Літвы шчодра паліты крывёю іхніх лепшых сыноў, якія зрабілі непамерна вялікі ўклад у агульнаеўрапейскую вызваленчую барацьбу эпохі сярэднявечча. Дарога да перамогі густа выслана целамі многіх тысяч бясстрашных і слаўных віцязяў. Аб муры многіх беларускіх замкаў пашчарбілі свае мечы драпежныя чужынцы. Акрамя Гродна, яны чатыры разы беспаспяхова – у 1250, 1314, 1391 і 1394 гг. – штурмавалі Навагрудак. Пяць разоў – у 1333, 1334, 1366, 1382 і 1386 гг. – бачыў іх горды і непакораны бацька гарадоў беларускіх слаўны горад Полацк. Тройчы – 1384, 1392, 1394 гг. – яны спрабавалі ўзабрацца на высокія муры Лідскага замка. Акрамя сцягоў нямецкіх рыцараў тут луналі харугвы рыцараў Англіі, Францыі, многіх іншых краін Еўропы. Бачылі іх пад сваімі сценамі Крэва, Бярэсце, Камянец, Ваўкавыск, Мядзел, Дзісна, Браслаў, Свір і незлічоныя вёскі, па іх не раз прайшлася разбуральная вайна.

Аднак найбольшую славу непрыступнай цвярдыні, пра якую ведала ўсё еўрапейскае рыцарства, атрымала старажытная Гародня, ці «замак Гартэн», як яго называлі прускія храністы. Пачынаючы з 1284-га і па 1402 год крыжакі зрабілі на гэтае арлінае гняздо Панямоння каля 20 паходаў. Бадай, не знайсці краіны ў Еўропе, рыцары адкуль не пабывалі б пад сценамі «недаступнага Гартэна». Паход «на Гартэн» лічыўся вышэйшай адзнакай і гонарам маладога еўрапейскага дваранства, рамантычнай тэмай прыдворных свецкіх баляў і банкетаў. З Германіі, Францыі, Швецыі, Галандыі, Даніі, Італіі, Іспаніі, Чэхіі і Англіі – атрад за атрадам ішлі крыжакі «на Гартэн». Хто іх толькі не ўзначальваў: магістр тэўтонаў Конрад Цірнберг (1284 г.), комтуры Кёнігсберга і Брандэнбурга, магістры Лівонскага ордэна і англійскія графы Чэмберлены, Нортумбеленгі і Бэдфарды.

Больш за чвэрць стагоддзя абаронай Гародні кіраваў непераможны князь Давыд Гарадзенскі, які са сваёй дружынай хадзіў на выручку Навагрудку і Пскову, рабіў кінжальныя рэйды ў Прусію, пад Брандэнбург і Франкфурт-на-Одэры. Не могучы адолець Давыда ў адкрытым баі, немцы з дапамогай наёмнага забойцы, польскага рыцара Андрэя Госта, па-здрадніцку і труслівa забілі яго ў 1328 годзе.

Сумеснае беларуска-літоўскае войска выйграла буйнейшую бітву еўрапейскага маштабу на рацэ Стрэве ў Латвіі. Немцам на падмацаванне прыбылі рыцары з Францыі і Англіі. Усяго іхняе пешае і коннае войска на чале з магістрам налічвала каля 40 тысяч чалавек. Беларуска-літоўскія дружыны былі ўзмоцнены харугвамі з Полацка, Віцебска, Гародні, Навагрудка, Бярэсця, Смаленска, Уладзіміра-Валынскага. Саюзнае войска не саступала рыцарскаму ні па колькасці, ні па ўзбраенні. Па маштабе і па сваім стратэгічным значэнні бітва на рацэ Стрэве можа раўняцца вядомаму пабоішчу на Куліковым полі. Яна прынесла заслужаную перамогу і славу князям Альгерду і Кейстуту.

Паколькі дзевяць дзясятых насельніцтва дзяржавы складалі нелітоўцы, то зразумела, што асноўны цяжар паходаў і бітваў падаў на плечы гараджан Беларусі і ў меншай ступені Украіны. Аснову войска складалі служылыя баяры, гарадскія апалчэнні, простыя «воі»-сяляне, слугі і нават адпушчаныя на волю рабы-паланянікі. Развітая дзесяцічна-соценная структура іх арганізацыі, адшліфаваная ў папярэднія стагоддзі, эканамічны патэнцыял гарадоў, высокі тэхнічны ўзровень зброі рабілі гэта войска надзейным гарантам у процістаянні крыжацкай агрэсіі.

Прускія храністы сведчаць, што пастаянная барацьба і гатоўнасць да абароны вымагалі ад вялікіх князёў максімальных высілкаў пры арганізацыі адпору рыцарскім драпежным паходам. Вітаўт нават пастанавіў, што кожны баярын быў абавязаны з’яўляцца на службу толькі конна. Калі ж нехта каня не меў, то мусіў прадаць у рабства жонку і дзяцей, але з’явіцца на вайну конна.

Рашаючая бітва сіл народаў Усходняй Еўропы (Польшчы, Беларусі, Літвы, Украіны, некаторых рускіх зямель, Чэхіі, Валахіі і іншыя) адбылася 15 ліпеня 1410 года каля в.Грунвальд у Альштынскім ваяводстве. Войскі ўзначальвалі польскі кароль Ягайла і вялікі князь літоўскі Вітаўт. Пад іх кіраўніцтвам было 90 харугваў. Гэтыя воінскія фарміраванні былі рознымі па колькасці людзей, але ў сярэднім гэта было 1000 чалавек. Звычайна тут мелася 200 коннікаў і 800 пехацінцаў. Палова іх была пры сцягу і абараняла яго. Дакладных звестак аб колькасці процістаячых войскаў няма. Па адных звестках, пад кіраўніцтвам Ягайлы і Вітаўта было каля 100 тысяч чалавек (уключаючы 30 тысяч татар хана Джэлаладдзіна, сына Тахтамыша Сарайскай Арды), па іншых крыніцах – усяго 32 тысячы. Прыблізна таксама ацэньвалася войска крыжакоў. З 90 харугваў 43 былі беларуска-ўкраінскія. Хронікі зафіксавалі тут Полацкую, Віцебскую, Гарадзенскую, Берасцейскую, Пінскую, Навагрудскую, Лідскую, Ваўкавыскую, Драгічынскую, Лельніцкую харугвы.

Польскі храніст Ян Длугаш называе яшчэ тры харугвы Смаленскай зямлі, але аналіз фактаў, дакументаў і розных крыніц паказвае, што са Смаленска, як і з усіх гарадоў, была толькі адна харугва. Астатнімі былі Мсціслаўская і Аршанская, якія стаялі разам са смаленцамі. Прыйшлі яшчэ Заслаўска-Менская, Слуцкая і Магілёўская, Крэўская, Кобрынская, Лукомская харугвы. Былі атрады чэхаў, маравaў, сілезцаў, валахаў. Стаялі ў ратным страі пасланцы Ноўгарада Вялікага, Ноўгарад-Северскага, Старадуба і іншых мясцін. З 40 харугваў Вітаўта 30 мелі на сваіх сцягах «Пагоню», а на 10 – герб «Калоны».

Бітва распачалася з артылерыйскай дуэлі. Першыя атакі супраць левага крыла крыжакоў пачала лёгкая конніца ВКЛ, на якую абрушыліся самыя моцныя ўдары праціўніка. Пасля жорсткіх і кровапралітных сутычак цяжкая конніца рыцараў пацясніла кавалерыю Вітаўта і частку пешых харугваў. Астатнія яго харугвы вялі зацяты бой на левым флангу, дзе асабліва вызначыліся тры палкі пад камандай мсціслаўскага князя Сямёна-Лінгвена – гэта смаленскі, аршанскі і мсціслаўскі. Адзін з гэтых палкоў загінуў цалкам, астатнія выстаялі і злучыліся з польскімі хругвамі. Адзіным магутным ударам саюзнікі прарвалі фронт, акружылі ворага і к вечару закончылі разгром крыжакоў. Ордэн страціў больш за 30 тысяч забітымі, параненымі і палоннымі. Былі забіты вялікі магістр Ульрых фон Юнінген і многія знатныя рыцары.

Разгром крыжакоў пад Грунвальдам спыніў агрэсію Тэўтонскага ордэна на ўсход, садзейнічаў эканамічнаму развіццю Беларусі і суседніх земляў, іхняму ўсталяванню ў агульнаеўрапейскім доме.

*(Працяг у наступным нумары.)*

АФІША

# «Стары Ольса» запрашае на юбілей

Легендзе беларускай музычнай фолк-сцэны 20 гадоў! З гэтай нагоды гурт збірае сваіх сяброў і прыхільнікаў старадаўняй музыкі ў Палацы прафсаюзаў.



У XIII–XVIII стагоддзях Беларусь была асноўнай часткай магутнай дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага. Натхняючыся яго гісторыяй, «Стары Ольса» адраджае музычныя традыцыі нашых продкаў і аднаўляе гучанне многіх забытых інструментаў. Музыканты граюць на копіях старажытных беларускіх і еўрапейскіх інструментаў: дудзе, колавай ліры, гуслях, жалейцы, сурме, варгане, рэбеку, лютні, цыстры, тромбамарыне, барабанах. У рэпертуары гераічны эпас, застольныя песні, балады, танцы, папулярныя мелодыі эпохі сярэднявечча і Рэнесансу.

Вечар, прымеркаваны да юбілею гурта, адбудзецца 16 лістапада ў Палацы прафсаюзаў. Квіткі ўжо ёсць у продажы. Кошт – 19–33 рублі.

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Андрэй КУРЭЙЧЫК:
# «Мастацтва выжывае ў любых умовах…»

*У Данецкім дзяржаўным акадэмічным музычна-драматычным тэатры паставілі п'есу вядомага беларускага рэжысёра «Дзіцячы сад».*

Неяк Андрэй Курэйчык прызнаўся, што гэтая п'еса – адна з самых яго любімых: *«Яна ставіць унікальныя акцёрскія задачы: пранікнуць у псіхалогію маленькіх дзяцей і прадставіць іх погляд на нашы дарослыя праблемы. Акрамя таго, магчыма, гэта мая лепшая тэатральная камедыя».*

П'есу прадстаўлялі ў Беларусі і Расіі, а таксама на Біенале еўрапейскага тэатра ў Вісбадэне – буйнейшым у свеце фестывалі сучаснай драматургіі. «Дзіцячы сад» тады атрымаў высокую ацэнку фестывальнай крытыкі.

*«Аказваецца, што гэтую п'есу паставілі і ў галоўным тэатры Данецка,* – паведаміў **Андрэй Курэйчык** у сацыяльных сетках. – *Я буду вельмі рады, калі складанейшае жыццё і лёс людзей гэтага горада зробіць крыху лепшым гэтая простая чалавечая наіўная гісторыя. Мастацтва выжывае ў любых умовах. А вось людзі – не заўсёды…»*

У сцэнарыста запыталіся накont таго, ці не парушыў музычна-драматычны тэатр аўтарскія правы, на што Андрэй Курэйчык адказаў так: *«З Данецка грошы я дакладна браць не буду».*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

З НАГОДЫ

Алесь СІВЫ



# А вы, сябры, як ні сядайце…

Днямі адбыліся дзве падзеі, якія паміж сабой быццам і не звязаны, але ў той жа час паралелі правесці можна.

Першая – пасля чатырох паражэнняў у адборачных матчах да Еўра-2020 быў адпраўлены ў адстаўку «па дамове бакоў» галоўны трэнер зборнай Беларусі па футболе Ігар Крывушэнка.

Кадравыя змены ў трэнерскім штабе футбольнай зборнай сталі такой жа звыклай з'явай, як летам сонца, а зімой – снег. Займаць пасаду настаўніка нацыянальнай каманды ўжо даўно не лічыцца прэстыжам, бо планы ва ўсіх трэнераў адразу пасля падпісання кантракта заўсёды грандыёзныя, але на зямлю даводзіцца апускацца ўжо пасля першых афіцыйных гульняў. Затым пачынаецца час расплаты – паліванне брудам на інтэрнэт-форумах, байкот з боку балельшчыкаў, незадаволенасць спартыўных функцыянераў. І, як фінальны акорд, фраза: «На выхад!»

Далей ідзе пошук новага трэнера. Яго знаходзяць, ён робіць аптымістычныя заявы, а праз нейкі час яму зноў даводзіцца чуць традыцыйнае: «На выхад!» І пакуль што прасвету ў гэтым тунэлі не бачна.

А зараз звернемся да другой падзеі, якая стала ў футбольным свеце ў пэўным сэнсе сенсацыяй – у мінулую суботу маладзёжная зборная Украіны выйграла залатыя медалі чэмпіянату свету. Сярод чэмпіёнаў ёсць і некалькі выхаванцаў беларускага трэнера Аляксандра Хацкевіча, якога з трэскам выгналі з пасады галоўнага трэнера зборнай Беларусі напрыканцы 2016 года, і ён з'ехаў працаваць ва Украіну. Памятаеце, за што выгналі? За тое, што каманда няўдала правяла чатыры матчы (як і ў выпадку з Ігарам Крывушэнкам) адборачнага турніру да чэмпіянату свету-2018.

Дык, можа, мы не там праблему шукаем? Як бачым, Аляксандр Хацкевіч не вельмі сумаваў з нагоды адстаўкі. Чалавек ужо мае права ганарыцца сваімі дасягненнямі ў жыцці, калі яго вучні становяцца чэмпіёнамі свету няхай і маладзёжнага першынства. Беларускім футбалістам тут, што называецца, як да Берліна пехатой. А ў федэрацыі, напэўна, да гэтага часу думаюць, што замест Хацкевіча ці Крывушэнкі прыйдзе новы трэнер, які прычэпіць футбалістам да трусоў прапелеры, і тыя будуць лётаць па полі, як пчолы. На жаль, ужо даўно не лётаюць.

Украінцы – малайцы, яны робяць стаўку на моладзь, за якой будучыня. І правільна сказаў вядомы ў мінулым футбаліст Ігар Гурыновіч: *«Насамрэч вінавата адсутнасць у краіне па-сапраўднаму класных ігракоў. У камандзе сабраліся мацнейшыя – другіх у нас няма. Што, Ігар Крывушэнка не ўзяў кагосьці з моцных ігракоў? Узяў усіх лепшых. Таму каго трэнерам зборнай не прызнач, нічога не зменіцца».*

Дарэчы, калі ў адборачнай групе ў зборнай Беларусі ўжо практычна няма ніякіх перспектыў, то ў сакавіку наступнага года каманда мае ўнікальны шанц атрымаць пуцёўку ў фінальную частку чэмпіянату Еўропы. У паўфінале наша каманда згуляе з Грузіяй, таму сітуацыя зусім не безнадзейная. І заслуга ў гэтым менавіта Ігара Крывушэнкі. Але пра гэта, відаць, ужо не ўспомняць. Чыноўнікам патрэбны перамогі сёння і зараз, таму трэнерскі канвеер працуе няспынна.

СТОП-КАДР

# У цэнтры Мінска герб сербскіх алігархаў

На бізнес-цэнтр BK Capital Palace ўстанавілі герб сербскіх алігархаў Карычаў, якім належыць фірма-забудоўшчык Dana Holdings. Будынак узвялі на месцы знесенага музея Вялікай Айчыннай вайны.

Надпісы па баках ад герба азначаюць Braća Karić (пер. браты Карыч) і Capital Palace. Пры гэтым на ранніх рэндарах ніякага герба на франтоне не было, адзначае «Еўрарадыё».

Браты Карычы адны з найбуйнейшых дэвелапераў у Беларусі. Іх кампанія Dana Holdings займаецца татальнай забудовай Мінска. За ўвесь час дзейнасці ў Беларусі намаганнямі Dana Holdings да 2019 года было пабудавана і прададзена больш за мільён квадратных метраў. Быў уведзены ў эксплуатацыю адзін з найбуйнейшых у краіне гандлёвых цэнтраў Dana Mall і бізнес-цэнтр Dana Center. У цяперашні час кампаніі холдынга будуюць жылы квартал «Мінск Свет» у раёне былога мінскага аэрапорта, а таксама жылыя комплексы Vogue і «Парк Чалюскінцаў».




БЛІЦ

*Міністр аховы здароўя **Уладзімір Каранік** мае намер ліквідаваць чэргі ў паліклініках і знізіць цэны на лекі.*

# Вы верыце ў гэта?

**Аляксандра ЛОБЗАВА, карэктар:**

– Уладзімір Каранік – высокапрафесійны доктар і да таго ж добры арганізатар дзейнасці вельмі складанай медыцынскай установы. І праблемы, пра якія ён кажа, трэба вырашаць. Але… Я не веру, што можна перамагчы чэргі ў паліклініках, перанакіраваўшы патокі хворых ад участковых тэрапеўтаў да памочнікаў урача. На мой погляд, "месцы масавага скаплення людзей" проста перасунуцца да іншых дзвярэй. А пачынаць барацьбу з высокімі коштамі на лекі са стварэння нейкай няхамнай інтэрнэт-платформы – тое ж самае, на мой погляд, што пачынаць мадэрнізацыю прамысловага прадпрыемства з шыкоўнага рамонту дырэктарскага кабінета.



**Анастасія ФАЛЬКОВІЧ, дызайнер адзення:**

– Не веру, таму што гэта нерэальна.

Я на сваім уласным вопыце пераканалася, што трапіць у паліклініку па месцы жыхарства на прыём да ўрача можна толькі праз велізарную чаргу. У мяі спрабавала запісаць дзіця да эндакрынолага, мне сказалі патэлефанаваць 20 чэрвеня. Увага: каб запісацца на жнівень!!! І тут жа прапанавалі патэлефанаваць у службу 131, запісацца платна ў тую ж дзяржаўную бальніцу, куды нас накіроўвалі з паліклінікі. Патэлефанавала, і нас платна запісалі на чэрвень. Але я ведаю, што, прыйшоўшы ў прызначаны час да доктара, усё роўна праведу там не менш за гадзіну ў чарзе. На жаль, гэтая сістэма прыёмаў працуе ўжо дзесяцігоддзямі, напэўна, каб нешта змяніць, трэба як мінімум у два разы павялічыць штат урачоў у паліклініцы.

А накont коштаў на лекі… Мне здаецца, тут не ўсё залежыць ад міністра.

**Андрэй АЛЯКСЕЕНКА, медбрат:**

– Дзесьці я гэта ўжо чуў… Васіль Жарко – памятаеце, быў такі міністр, – абяцаў з чэргамі пакончыць, і нават прыёмы ў медыцынскіх ВНУ тады павялічылі. І што? Зараз выпускнікі з гэтымі дыпломамі ў Еўропу ўцякаюць…

З цэнамі на лекі хто толькі не змагаўся! І Міністэрства аховы здароўя, і КДБ, і Дзяржкантроль, і нават Міністэрства антыманапольнага рэгулявання. А яны як былі вышэй, чым у Польшчы і ва Украіне, такімі і застаюцца. Так што не веру я абяцанням новага міністра.

**Ларыса ГРЫБАЛЁВА, спявачка, тэлевядучая:**

– Было б цудоўна, калі б у міністра гэта атрымалася. Таму што, напрыклад, у нашай раённай паліклініцы ў пасёлку Лясны, што пад Мінскам, сітуацыя проста ахавая, чэргі там неймаверныя. Паліклініка абслугоўвае некалькі прылеглых вёсак.

Але, мне здаецца, змагацца трэба не з чэргамі, а са стаўленнем беларусаў да свайго здароўя. У паліклініку калі ідуць? Калі захварэлі. Я ўявіла б штрафы за тое, што людзі не праходзяць элементарныя абследаванні.

**Ала ГЕРАСІМОВІЧ, пенсіянерка з Мінска:**

– Не веру. Няўжо папярэднія кіраўніцтва Міністэрства аховы здароўя не хацела вырашыць пытанне з чэргамі? Але ж не спраўлялася з гэтай праблемай.

Увогуле, мы – унікальная краіна, бо патрэбна адстаяць у чарзе не толькі да кабінета ўрача, але і для таго, каб узяць талон да гэтага самага ўрача. Пры гэтым спачатку неабходна адстаяць чаргу, каб узяць у аўтамаце талон у рэгістратуру, дзе вам дадуць талон да ўрача. Няхай міністр адкажа: хто прыдумаў гэты маразм?

Што тычыцца зніжэння коштаў на лекі, то тут тая ж самая гісторыя. Калі зніжэнне магчыма, то чаму гэта не зрабілі раней? Хто перашкаджаў?

НАВЕДАЙЦЕ!

# Адкрыўся бар «Каліноўскі»

*У Мінску на вуліцы Зыбіцкай адкрыўся бар, названы ў гонар нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага.*

Бар аздоблены партрэтам кіраўніка паўстання 1863 года, а на сцяне змешчана яго славутае выказванне: "Не народ для ўрада, а ўрад для народа". Як прызнаўся ўласнік бара прадпрымальнік Аляксей Славута, Каліноўскі – яго ўлюбёны гістарычны персанаж яшчэ са школьных гадоў, а ідэі, выказаныя ім на старонках «Мужыцкай праўды» 150 гадоў таму, надзённыя і для Рэспублікі Беларусь. Вуліца Зыбіцкая, якая ідзе ўздоўж Свіслачы, адна з самых папулярных у моладзі.

**Антон ЗАГОРСКІ.**

СЛЫШАЛИ?

# В России ужесточили наказание за ДТП в нетрезвом виде

Так, за причинение тяжкого вреда здоровью людей водителю, который совершил ДТП в пьяном состоянии, будет грозить от трех до семи лет лишения свободы (сейчас до четырех лет). В случае смерти одного пострадавшего – от пяти до 12 лет (сейчас от двух до семи лет).

Если в результате аварии погибли два и более человека, водитель получит от восьми до 15 лет колонии (сейчас от четырех до девяти лет).

В России концентрация алкоголя для признания состояния опьянения установлена в пределах 0,3 и более промилле.

И Беларусь должна пойти на ужесточение наказания тех, кто сел за руль в пьяном виде и совершил дорожно-транспортное происшествие с нанесением людям увечья или со смертельным исходом.

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

# Старость начинается не раньше 80 лет

*Интересные факты из мира генетики…*

Продолжительность жизни в мире стремительно растет. Главным следствием этого является вовсе не то, что старость теперь дольше продолжается, а то, что она намного позже начинается.



### Для тех, кому сегодня 40–55, старость начнется только лет в 75–80.

То есть на добрых четверть века позже, чем для поколения наших родителей.

Еще совсем недавно в человеческой жизни было лишь три основных периода: молодость, зрелость, старость. Теперь зрелость начинается в 50, и это начало абсолютно нового, попросту не существовавшего раньше этапа человеческой жизни.

### Что мы знаем о нем?

**1.**Он продолжается 25 лет – с 50 до примерно 75.

**2.**В отличие от прежних представлений, физические и интеллектуальные возможности человека в этот период при правильном подходе не снижаются и остаются по крайней мере не хуже, а в некоторых случаях и лучше, чем в молодости.

**3.**Потенциально это лучший, самый качественный период в человеческой жизни, поскольку совмещает в себе здоровье, силы и жизненный опыт. «Если б молодость знала, если б старость могла» – это больше не про нас. По всем статистическим данным последних лет, самое счастливое время в жизни, ее пик наступает теперь примерно в 65 лет.

**4.**Те, кому сегодня 55–65, проживают этот период первыми в истории человечества. Раньше его просто не было, поскольку люди намного раньше старели.

**5.**В ближайшие несколько десятилетий люди возраста 50–75 станут самой массовой возрастной группой на планете.

### Чем отличается жизнь после 50 от всей предыдущей жизни?

Да тем, что тому, как жить после 50, нас никто никогда не учил!

В младенчестве нас готовят к детству, в детстве – к юности, в юности – к молодости, а в молодости мы проводим десятки часов, готовя себя к предстоящим испытаниям зрелости. И только границу в 50 лет мы пересекаем, не имея ни малейшего представления о том, как, чем и ради чего жить дальше.

Здесь нет ничего удивительного. Откуда таким знаниям взяться, если еще для поколения наших родителей в 50 лет официально начиналась старость и жить дальше вообще не полагалось, а полагалось начинать понемногу умирать.

Мы редко осознаем, что та жизненная программа, которой мы неукоснительно следуем, путешествуя по жизни, на самом деле заложена в нас предыдущими поколениями. Именно предыдущими поколениями созданы те книги, фильмы, система образования, которые в детстве и в молодости формируют наше сознание.

Но у предыдущих поколений не было никаких представлений о жизни после 50 по той простой причине, что после 50 лет жизни не было в принципе. Потому нет их и в программе жизни, которая досталась нам от них в наследство.

По статистике, для тех, кому сегодня 50–55 или около того, старость начнется не раньше 80 лет. Это очень, очень приятно, конечно. Нам просто взяли и подарили аж 25 лет (!) дополнительной активной и насыщенной жизни. Проблема в том, что нас не научили, как пользоваться этим подарком. И в результате, переходя границу в 50 и соглашаясь по незнанию на преждевременную старость, мы рискуем потерять добрых 25–30 лет, которые – без преувеличения – могли бы быть лучшими в нашей жизни.

После 50 лет в жизни наступает замечательный момент, когда есть время, здоровье, силы, свобода от социальных обязательств, опыт и до начала старости, по современным меркам, еще четверть века!

Не теряйте этого времени зря. Потом будете очень жалеть!

Если вам за 50, то для вас сегодня возможно абсолютно все: новые увлечения, новые радости и впечатления, новая карьера, новая любовь, новые путешествия. Причем качество этих жизненных впечатлений намного превышает все, что было доступно в зеленой, неумелой юности или обремененной обязательствами зрелости.

*greatpicture.ru.*

ПОЗДРАВЛЯЕМ!

# ПРОФЕССИОНАЛ


Юрий Иванов среди коллег (в берете).

У фотографа Юрия Иванова – прекрасный юбилей. Ему 80. По паспорту. И, думаю, не больше 40 в душе. Куда бы я ни пришла по заданию редакции, Юрий Сергеевич уже опередил, он уже на месте с фотоаппаратом на плече. Я иногда думаю: может быть, именно он и создает все лучшие события и новости в нашей стране – иначе как объяснить, что человек повсюду успевает первый?

Шутки шутками, но на своем творческом пути Юрий Иванов действительно очень часто опережал своих коллег. Он первый в Беларуси в 1987 году получил престижную премию World Press Photo в Гааге. Первым в Беларуси напечатал свое фото в американском журнале «Time-Life» («Летучка»), и работа была признана «Лучшей фотографией мира за 10 лет (1980–1990)».

Мне кажется, он сделал лучший портрет Петра Мироновича Машерова (он раньше печатался в «Народной Воле») и лучший – Владимира Мулявина и его ансамбля «Песняры». Он был чуть ли не единственным фотографом, кто работал в Вискулях при подписании Беловежских соглашений. И точно именно он создал лучший фотоочерк о Чернобыльской зоне из Чериковского района. Юрий Иванов всегда жил со страной в унисон, он тонко чувствует, как бьется сердце Беларуси. Когда мастера спрашивают, что делать с искусством фото сегодня, ведь «цифра» у каждого в руках, и она напрочь сбила качество снимков, Юрий Сергеевич спокойно напутствует: «В фотографии ничего не изменилось – изменилось количество фотографов и количество фотографий. Время и люди отберут лучшее. А непрофессионализм уйдет сам».

**Елена МОЛОЧКО.**


«Летучка».


«Песняры» в деревне Усполье, 1981 год.


Михаил Высоцкий, генеральный конструктор МАЗа.


«Грибы Полесья», 1972 год.


Петр Миронович Машеров и будущее Беларуси.

ЕВРОПЕЙСКИЕ ИГРЫ-2019

## По заводам!

Факелоносцы II Европейских игр побывали на машиностроительных предприятиях БелАЗ и «БелДжи».

По цехам совместного белорусско-китайского автопроекта пламя пронес олимпийский чемпион по тяжелой атлетике Андрей Арямнов.

*«Очень ответственно нести огонь II Европейских игр. Это очень важно для меня, очень круто. Тем более что я иду по заводу первого белорусского автомобиля»,* – рассказал Арямнов на канале «Беларусь 1».

## Чтобы не быть обманутым

В сети появляются фото необычного объявления, наклеенного на стенах и дверях у выхода из Национального аэропорта Минск.

Речь идет о декларации справедливой цены на услуги такси до столицы. По заверению составителей объявления, она не должна превышать 30 белорусских рублей. Судя по формулировкам, листовка адресована в первую очередь иностранцам, информирует onliner.by.

Очевидно, объявление появилось после бесчисленных историй о дорогих поездках на машинах такси, в которых выставлены тарифы, выдуманные самими водителями. Например, в апреле этого года туристы из Германии за дорогу от аэропорта до отеля Marriott на проспекте Победителей (45 км) отдали 150 рублей.

## Под охраной

С 11 июня деревня спортсменов принята под круглосуточную охрану.

Как рассказал заместитель начальника милиции общественной безопасности Московского РУВД Минска Дмитрий Колодинский, на протяжении четырех дней саперно-пиротехнические




группы обследуют каждое помещение на объекте, начиная с подвалов и заканчивая чердаками.

До прибытия гостей проверенные помещения будут опломбированы. Доступ на территорию обеспечивают четыре контрольно-пропускных пункта. На данный момент внутрь допускается только обслуживающий персонал по предъявлении аккредитационной карточки, экстренные службы и автомобили, которые подвозят продукты питания. Все люди и транспортные средства тщательно досматриваются.

Протяженность охраняемого периметра составляет 4 километра. За прилегающей территорией наблюдает более 70 видеокамер, усилены меры дорожной безопасности, наряды ДПС приближены к объекту.

## Однажды уже оскандалились…

Организаторы Игр завершают презентацию стран – участниц спортивного форума.

После скандала с Израилем, когда организаторы II Европейских игр опубликовали карту страны без Иудеи, Самарии и Голанских высот, а тамошний министр спорта анонсировал протестное обращение к Александру Лукашенко, режиссеры клипов с осторожностью подошли к оформлению роликов о России и Украине. В отличие от других стран, географических карт в них нет. Судя по всему, из-за взрывоопасной ситуации вокруг любого варианта принадлежности Крыма, сообщает pressball.by.

## Два в одном

На торжественной церемонии открытия Игр впервые совместят составы двух оркестров: президентского и народного имени Жиновича.

Специально для церемонии российские композиторы написали сложнейшие партитуры. Над ними уже работают музыкальные коллективы, сообщается в сюжете канала «Беларусь 1».

Хедлайнерами церемонии станут оперная дива Анна Нетребко и победитель «Славянского базара 2015» Димаш Кудайбергенов. В концерте споют и голоса Большого театра: Маргарита Левчук, Илья Сильчуков и другие.

## Лекарства – бесплатно

Участники Европейских игр в Минске смогут получать бесплатные лекарства при наличии показаний.

Как рассказала директор Республиканского научно-практического центра спорта Ирина Малеваная, медицинское обеспечение непосредственно спортивных делегаций будет представлено по нескольким направлениям. В первую очередь будет функционировать поликлиника в Олимпийской деревне, которая будет работать с 7 утра до 11 часов вечера. Там будут предоставляться любые медицинские услуги, начиная от консультативной помощи, диагностической помощи, некоторых реабилитационных мероприятий.

И в том числе там будет работать аптека, где по рецептам определенной формы, разработанной дирекцией Европейских игр, при наличии показаний бесплатно будут выдавать лекарства.

ФУТБОЛ

# Мінскае «Дынама» парадавала балельшчыкаў галамі

*Прайшлі матчы 11-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: «Мінск» – «Нёман» (Гродна) – 2:1, «Гарадзея» – «Тарпеда» (Мінск) – 0:0, «Дняпро» (Магілёў) – «Іслач» (Мінскі раён) – 3:0, «Славія» (Мазыр) – «Слуцк» – 1:1, «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – «Віцебск» – 1:0, «Дынама» (Мінск) – «Энергетык-БДУ» (Мінск) – 6:1, БАТЭ (Барысаў) – «Шахцёр» (Салігорск) – 3:1, «Дынама» (Брэст) – «Гомель» – 3:0.



Фота: dinamo-minsk.by.

## Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Бр) | 11 | 9 | 2 | 0 | 26–6 | 29 |
| БАТЭ | 11 | 9 | 0 | 2 | 19–4 | 27 |
| Шахцёр | 11 | 8 | 0 | 3 | 18–9 | 24 |
| Дынама (Мн) | 11 | 7 | 1 | 3 | 17–9 | 22 |
| Іслач | 11 | 7 | 0 | 4 | 15–9 | 21 |
| Тарпеда-БелАЗ | 11 | 6 | 2 | 3 | 14–8 | 20 |
| Славія | 11 | 5 | 2 | 4 | 14–12 | 17 |
| Нёман | 11 | 4 | 1 | 6 | 10–16 | 13 |
| Віцебск | 11 | 3 | 4 | 4 | 11–13 | 13 |
| Гарадзея | 11 | 3 | 4 | 4 | 6–11 | 13 |
| Дняпро | 11 | 2 | 4 | 5 | 10–16 | 10 |
| Мінск | 11 | 1 | 6 | 4 | 10–15 | 9 |
| Гомель | 11 | 2 | 1 | 8 | 17–21 | 7 |
| Слуцк | 11 | 1 | 4 | 6 | 9–23 | 7 |
| Энергетык-БДУ | 11 | 1 | 4 | 6 | 11–27 | 7 |
| Тарпеда | 11 | 1 | 3 | 7 | 2–10 | 6 |

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 17.06.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 005 экз. Заказ № 2007.
9 772071 964000 19047